# ЗЬМЕСТ



---

# ПАПРАЎКА

**У артыкулах тав. Тупяневіча, зьмешчаных у №№ 1, 3 і 4 „Шляхі калектывізацыі“, дапушчаны апячаткі:**

| | Надрукавана | Патрэбна чытаць |
|---|---|---|
| | У процантах | |
| № 1—стар. 37 3 радок зьнізу . . | 6,9 | 76,0 |
| № 3— „ 22 6 „ „ . . | 3333,95 | 33334,95 |
| № 3— „ 23 13 „ „ . . | 1729 | 17,29 |
| № 3— „ 23 12 „ „ . . | 274,43 | 2741,43 |
| № 3— „ 24 23 „ „ . . | а можна 12—15 *цнт* насеньня | (а можна 12—15) **на *цнт*** насеньня |

---

Менск, Друк. ...

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60

**№ 7 — КРАСАВІК — 1931**

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

## „Сьмела ўступайце ў нашы шэрагі“

**Памятайце, што „калі мы будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хоць і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае нямінучая гібель“.**

**(Ленін)**

## ДА ЎСІХ КАЛГАСЬНІКАЎ І БЕДНЯКОЎ І СЕРАДНЯКОЎ АДНААСОБНІКАЎ

*(Адозва 3-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў)*

### ТАВАРЫШЫ!

Мы, прастаўнікі 5.180 калгасаў і 160.000 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, аб'яднаўшыся ў калгасы, сабраліся на свой 3 Усебеларускі Зьезд для таго, каб абгаварыць пытаньні неабходнасьці рашучага ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі, як лепш арганізаваць калгасную гаспадарку, як хутчэй узьняць таварнасьць нашых калгасаў, што і як трэба рабіць, каб забясьпечыць бальшавіцкае правядзеньне надыходзячай веснавой сяўбы.

Абгаварыўшы вынікі калгаснага будаўніцтва за апошнія 2 гады, са здавальненьнем заяўляем, што пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі мы дасягнулі вялікіх посьпехаў у калектывізацыі і арганізацыі калектыўнай гаспадаркі. Калі 2 гады таму назад нас калгасьнікаў было яшчэ надта мала, налічвалася толькі каля 8 тысяч калектывізаваных гаспадарак, дык к 3 зьезду ў калгасы ўжо ўступіла звыш 160 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР.

Звыш аднэй пятай часткі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо аб'ядналіся ў калгасы, канчаткова вызваліліся ад

сваіх заклятых ворагаў—кулакоў і сталі на адзіна правільны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі, на шлях калектывізацыі, на шлях будаўніцтва сацыялізму.

Пад кіраўніцтвам рабочае клясы мы вядзем рашучую барацьбу з кулацтвам і практычна ажыцьцяўляем задачу ліквідацыі кулацтва, як клясы, разгортваючы суцэльную калектывізацыю. Ужо ў выніку першага году нашай работы ў калгасах, мы значна палепшылі сваё матар'яльнае становішча ў параўнаньні са становішчам, у якім мы знаходзіліся да ўступленьня ў калгасы і ў якім знаходзіцеся вы бедныя і серадняки на сваіх дробных гаспадарках.

Наша калектыўная гаспадарка, ня гледзячы на буйныя недахопы ў арганізацыі вытворчасьці працы, большы ўраджай дае, дае больш прыбытку і больш карысьці, чым ваша аднаасобная.

Для таго, каб вы хутчэй пераканаліся ў пераважнасьці калектыўнай гаспадаркі над дробнай аднаасобнай і хутчэй сталі на шлях калектывізацыі, на шлях сапраўднага ўздыму сельскай гаспадаркі, мы паведамляем вам нашы дасягненьні і перавагі калектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай.

**Калгасныя палі, апрацаваныя калектыўна, даюць большы ўраджай, чым палоска аднаасобных гаспадарак:**

| Ураджай у калгасах | | У аднаасобных гаспад. |
|---|---|---|
| жыта з 1-га *га* . . . | 8,8 цэнтн. | 7,9 цэнтн. |
| аўса „ „ . . . | 9,4 „ | 8,3 „ |
| ячменю „ „ . . . | 7,5 „ | 6,9 „ |
| бульбы „ „ . . . | 100 „ | 96 „ |

**Калгасныя каровы даюць ужо больш высокі ўдой, чым каровы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.**

У 1930 годзе сярэдні ўдой аднае каровы ў калгасах складаў 14,3 цэнтнэра ў год, удой адной каровы ў аднаасобных гаспадарках толькі 9,2 цэнтн.

У калгасах цягавая сіла і сельскагаспадарчы інвэнтар выкарыстоўваецца з большай карысьцю, чым у аднаасобных гаспадарках.

**Калі ўвесну 1930 году на адну цягавую сілу ў вас было ўспахана і засеяна 1,9 *га*, дык ў нас у два разы больш—3,6 *га*.**

**На аднаго працаздольнага ў вас было ўспахана і засеяна 0,7 *га*, у нас—1,53 *га*; успахана на зяб на адну сям'ю ў вас—1,3 *га*, у нас 2,9 *га*, альбо ў два разы больш.**

**Азімых на 1931 год калгасы засеялі на адну сям'ю 2,0 *га*, аднаасобнікі—1,6 *га*.**

Таварнасьць нашай гаспадаркі ўжо ў два разы вышэй таварнасьці вашых аднаасобных гаспадарак, а гэта значыць, што і матар'яльнае становішча калгасьнікаў значна лепшае, чым беднякоў і сераднякоў аднаасобнікаў.

Саўгасы і калгасы ня толькі поўнасьцю замянілі ўжо вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі панскіх і кулацкіх гаспадарак, але і значна перавысілі яе, саўгасы і калгасы змаглі ўжо даць дзяржаве звыш 30 процантаў усяго таварнага хлеба.

Гэтыя лічбы і факты, правераныя і даказаныя намі на практыцы, поўнасьцю пацьвярждаюць правільнасьць слоў нашага правадыра і настаўніка Уладзімера Ільліча Леніна, што „ўдвое і ўтрое павысілася-б прадукцыйнасьць працы, удвое і ўтрое была-б з'эканомлена чалавечая праца для земляробства і гаспадаркі, калі-б ад раскіданай дробнай гаспадаркі, адбыўся пераход да гаспадаркі грамадзкай".

Гэтыя дасягненьні мы маем толькі дзякуючы таму, што Камуністычная партыя і Савецкая ўлада правільна праводзілі генэральную лінію партыі, што лінія партыі і ўлады, накіраваная на ўзмацненьне тэмпаў індустрыялізацыі краіны, арганізацыю саўгасаў і калектывізацыю бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—зьяўляецца цалкам і поўнасьцю правільнай. Гэтыя посьпехі забясьпечаны шпаркім разгортваньнем будаўніцтва буйнай прамысловасьці і рашучым наступленьнем на капіталістычныя элементы як у горадзе, так і на вёсцы і бязьлітаснай барацьбой з прышчэпаўшчынай, контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і іншымі ворагамі сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад выпрабаваным і ўмелым кіраўніцтвам Камуністычнае партыі і пры дапа-

мозе ўсяго Савецкага Саюзу, Савецкая Беларусь на нашых вачох з эканамічнае адсталай і нацыянальна прыгнечанай краіны шпарка ператвараецца ў краіну сацыялізму. Замест дробных саматужных прадпрыемстваў ужо пабудаваны і будуюцца новыя магутныя фабрыкі і заводы, ужо ліквідавана беспрацоўе.

На аснове шпаркага разгортваньня будаўніцтва прамысловасьці, з кожным годам павялічваецца дапамога з боку пралетарскай дзяржавы калгасам. У 1931 г. дзяржава дае калгасам 38 мільёнаў рублёў сельскагаспадарчага крэдыту, будуюцца 23 машына-трактарныя станцыі, якія ўспашуць ужо ўвесну 1931 году 230 тысяч га, будуюцца 44 ільнаапрацоўваючых заводаў і г. д. Такую вялікую дапамогу сельская гаспадарка можа атрымаць толькі пры дыктатуры пралетарыяту.

## ТАВАРЫШЫ АДНААСОБНІКІ!

3 Усебеларускі зьезд калгасаў ад імя соцень тысяч калгасьнікаў—учарашніх аднаасобнікаў зьвяртаецца да вас:

**Вы ўжо маглі ўпэўніцца ў той вялікай перавазе, якую мае буйная калектыўная гаспадарка над дробнай аднаасобнай і таму хутчэй перабудоўвайце свае дробныя аднаасобныя гаспадаркі ў буйныя калектыўныя, памятаючы, што „калі мы будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хоць і вольныя грамадзяне, на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае нямінуемая гібель“** (Ленін).

**Мы заклікаем вас выйсьці сумесна з намі для правядзеньня веснавога севу калектыўна.**

**Хутчэй парывайце з дробнай гаспадаркай і сьмела ўступайце ў нашы шэрагі, каб разам з намі будаваць буйную калектыўную гаспадарку.**

**Чым хутчэй вы ўступіце на шлях калектывізацыі, тым лепш будзе як для вас, гэтак і для ўсяго нашага сацыялістычнага будаўніцтва.**

**Толькі дружнай і калектыўнай працай, пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе авангарду камуністычнай партыі, мы дасягнем поўнае перамогі над нашым клясавым ворагам—кулаком і прыдзем да сацыялізму.**

**Таварышы беднякі і сераднякі!** Вы павінны добра зразумець, што кулацкая работа супроць калектывізацыі накіравана супроць вас. Вядучы работу супроць калектывізацыі, кулак абараняе свае інтарэсы, а ня вашы, таму сьмела і рашуча змагайцеся з кулаком.

**Таварышы аднаасобнікі!** Нельга зараз стаяць у баку ад тэй вялікай работы, якая праводзіцца па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Альбо з рабочай клясай і калгасьнікамі, альбо з кулакамі супроць калгасных мас, супроць сацыялістычнага будаўніцтва.

**Таварышы беднякі і сераднякі аднаасобнікі!** Ведайце, што „бядняк і серадняк аднаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з калгасамі і падрывае калгаснае будаўніцтва, ня можа быць адданым саюзьнікам і тым больш апорай рабочае клясы,—ён на справе саюзьнік кулака. Толькі той бядняк і серадняк—аднаасобнік застаецца саюзьнікам рабочае клясы, які разам з рабочай клясай дапамагае будаваць калгасы, хто падтрымлівае калгасны рух, хто дапамагае весьці рашучую барацьбу кулаком. Для таго, каб стаць сапраўднай моцнай апорай Савецкай улады, перад бедняком і серадняком аднаасобнікам адзін шлях—шлях дапамогі калгасу, а потым і ўступленьне ў калгасы (VI Усесаюзны зьезд саветаў).

Перад вамі стаіць зараз пытаньне—**за каго, за калгас, ці супроць калгасу.**

Мы заклікаем вас паскорыць адказ на гэта пытаньне масавым уступленьнем у калгасы, арганізацыяй новых калгасаў, разгортваньнем матутнага сталінскага прыліву ў калгасы, разгортваньнем суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

**Няхай жыве суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя на гэтай аснове кулацтва як клясы!**

**Няхай жыве наш кіраўнік—Камуністычная партыя, якая паказала адзінаправільны для нас шлях сапраўднага ўздыму сельскай гаспадаркі, шлях калектывізацыі!**

Трэці Ўсебеларускі
зьезд калгасаў

# Шырэй хвалю
# КАЛГАСНАГА ПРЫЛІВУ!

**КАЛГАСЫ ПАВІННЫ ШТОДЗЕННА ПРАВОДЗІЦЬ МАСАВУЮ РАБОТУ СЯРОД БЕДНЯКОЎ І СЕРАДНЯКОЎ—АДНААСОБНІКАЎ ПА ВЯРБОЎЦЫ ІХ У КАЛГАСЫ**

## Пастанова 3-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў

### па справаздачы праўленьня Калгасцэнтру, вытворчым пляне на 1931 год і далейшых задачах калгаснага будаўніцтва

Прашоўшы ад другога да трэцяга Ўсебеларускага зьезду калгасаў пэрыяд (кастрычнік 1928—сакавік 1931 году) характарызуецца вялізарнымі посьпехамі ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, канчатковым, маючым гістарычнае значэньне, паваротам шырокіх бядняцка- серадняцкіх мас на шлях соцыялізму.

Пераканаўшыся на прыкладах саўгасаў і калгасаў у пераважнасьці буйнае сацыялістычнае гаспадаркі над дробнай аднаасобнай, якая зьяўляецца базай росту кулацтва, шырокія бядняцка-серадняцкія масы рашуча і беззваротна сталі на шлях калектывізацыі, на шлях актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізму, разгортваючы суцэльную калектывізацыю, практычна праводзяць работу па ліквідацыі кулацтва як клясы, гэтага зьлейшага свайго клясавага ворага.

1. Асноўныя дасягненьні за апошнія тры гады заключаюцца ў тым, што:

а) Колькасьць калгасаў павялічылася з 994 на 1-X—28 г. да 5.400 на 20-III—31 г., а процант калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак складае 20,3 проц. замест 1,1 проц.

б) Толькі ў выніку складаньня простых сродкаў вытворчасьці, калгасы ўжо паказалі пераважнасьць калектыўнае гаспадаркі над дробнай аднаасобнай (ураджайнасьць у колгасах на 20 проц. вышэй ураджайнасьці аднаасобных гаспадарак, сярэдні гадавы ўдой аднэй каровы складаў у 1930 годзе 14,3 цэнтнэры пры 9,2 цэнтн. у аднаасобнай гаспадарцы). Засеяна было ярыны на аднаго працаздольнага ў калгасах 1,53 *га*, у аднаасобных гаспадарках 0,7 *га*, азімых на 1 сям'ю ў калгасах—2,0 *га*, у аднаасобных гаспадарках—1,6 *га*.

в) Таварная частка прадукцыі ў калгасах значна вышэй таварнасьці аднаасобных гаспадарак (пры ўдзельнай вазе калгасаў у пасеўных плошчах у 15,0 проц., калгасы здалі (прадалі) дзяржаве каля 27 проц. збожжа, загатоўленага ад усяе сельскае гаспадаркі).

г) Матар'яльнае становішча калгасных мас палепшылася ў параўнаньні з аднаасобнымі гаспадаркамі (сярэдні даход на адну калгасную сям'ю ў 1½—2 разы большы даходу аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак).

На аснове палепшаньня матар'яльнага становішча шпарка ўзрастае і культурны ўзровень калгасьнікаў.

Зьезд калгасаў адзінадушна адзначае што толькі на аснове правільнага кіраўніцтва камуністычнай партыі і вялізарнай вытворчай дапамогі сельскай гаспадарцы з боку рабочае клясы і сацыялістычнай прамысловасьці (доўгатэрміновае крэдытаваньне, будаўніцтва МТС, забясьпечаньне складанымі машынамі) і толькі ў выніку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты і барацьбы за



Актывістка-калгасьніца т. Мядзьведзева, (Кара- [illegible] лінскі р., камуна „Праца“).

генэральную лінію партыі дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і арганізацыі калектыўнай вытворчасцці.

Гэтыя посьпехі ў перабудове адсталае нізка-таварнае дробнае гаспадаркі ў буйную калектыўную дасягнуты ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, ва ўмовах барацьбы кулацтва, апартуністых розных колераў, контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў, інтэрвэнтаў і шкоднікаў супроць індустрыялізацыі, супроць саўгаснага і калгаснага будаўніцтва.

Кулацтва і іншыя ворагі сацыялістычнага будаўніцтва ўсімі сіламі стараюцца сарваць і перашкодзіць пасьпяховаму ходу будаўніцтва сацыялізму. Кулацтва імкнецца сарваць падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Зьезд прапануе ўсім калгасам, калгассаюзам і праўленьню Калгасцэнтру весьці самую рашучую барацьбу з кулацтвам, з іх абаронцамі, выкрываючы дзейнасьць іх, усямерна арганізоўваючы батрацтва і беднату і рашуча ачышчаючы калгасы ад кулацкіх элемэнтаў.

Зьезд з усёй катэгарычнасьцю ўказвае на неабходнасьць узмацненьня работы па арганізацыі батрацтва і беднаты, па наладжваньні работы батрацка-бядняцкіх груп, накіроўваючы дзейнасьць іх на ўзмацненьне тэмпаў калектывізацыі, арганізацыю калектыўнай вытворчасьці і барацьбу з кулацтвам.

Зьезд адзначае, што дасягнутыя посьпехі ў арганізацыі калектыўнае вытворчасьці зьяўляюцца толькі першапачатковымі. Далёка яшчэ не выкарыстоўваюцца тыя магчымасьці для арганізацыі высока-таварнай гаспадаркі, якія забясьпечваюцца ўмовамі савецкага ладу і вялізарнай вытворчай дапамогай з боку сацыялістычнай прамысловасьці.

Задачай калгаснай сыстэмы і ўсіх калгасных мас зьяўляецца:—усе сілы, усю энэргію накіраваць на ўзмацненьне тэмпаў калектывізацыі, на правільную арганізацыю вытворчасьці і працы ў калгасах, на барацьбу за высокія якасныя паказчыкі працы, каб у найбольш кароткі час „дагнаць і перагнаць“ капіталістычныя краіны ня толькі ў галіне прамысловасьці, але і сельскае гаспадаркі.

Разам з маючыміся посьпехамі ў калектывізацыі і арганізацыі калектыўнае вытворчасьці Зьезд канстатуе шэраг буйнейшых недахопаў:

а) калгасная сыстэма, якая аб'яднае ўжо сотні тысяч калгасьнікаў—актыўных удзельнікаў будаўніцтва сацыялізму на вёсцы, яўна недастаткова праводзіць работу па арганізацыі новых калгасаў і ўцягненьню ў існуючыя калгасы новых членаў.

З боку шэрагу Калгассаюзу мела і мае месца права-апартуністычная стаўка на самацёк у пытаньнях калгаснага будаўніцтва. Недастаткова арганізаваны масы калгасьнікаў для правядзеньня работы сярод аднаасобнікаў, за новы калгасны прыліў. Недастаткова вядзецца барацьба з замкнутасьцю некаторых калгасаў і нежаданьнем прымаць новых членаў.

Зьезд адабрае рашэньне Калгасцэнтру аб роспуску Стара-Дароскага і Менскага Райкалгассаюзаў за іх права-апартуністычную дзейнасьць і прапануе і ў далейшым рашуча весьці барацьбу, як з паасобнымі работнікамі, так і калгасамі і саюзамі, якія не праводзяць лініі партыі і Савецкай улады ў справе сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

б) Асноўным недахопам у становішчы калгасаў зьяўляецца тое, што нездавальняюча арганізавана праца ў калгасах (толькі ў нязначнай колькасьці калгасаў уведзены зьдзельшчына і нормы выпрацоўкі, улік працы ў працаднёх, зусім слаба разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва, не арганізавана работа вытворчых нарад, нізкая працоўная дысцыпліна, безгаспадарчасьць у значнай частцы калгасаў, разгільдзяйства, гультайства і г. д.

Усё гэта прыводзіць к таму, што ў шэрагу калгасаў несваячасова выконваліся гаспадарчыя заданьні (уборка, малацьба, апрацоўка ільну і інш.).

в) Частка калгасаў, паддаўшыся кулацкай агітацыі, правяла ў сябе няправільнае антыкалгаснае разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю — разьмеркаваўшы прыбыткі і ўраджай не па колькасьці і якасьці затрачанай працы кожным калгасьнікам, а па едакох, што падрывае калгасную вытворчасьць, зьніжае зацікаўленасьць у працы і дае магчымасьць гультаям і прагульшчыкам жыць за рахунак лепшых перадавых, адданых справе калектывізацыі—калгасьнікаў.

Ядоцкі прынцып разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю зьніжае вытворчасьць працы ў калгасах, зьніжае таварную частку прадукцыі, вядзе к несваячасоваму выкананьню сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай і ператварае такі калгас ў ілжэкалгас, у прамога падсобніка кулацтву.

Зьезд канстатуе, што нездавальняючую працу ў калгасах, няправільнае разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю, несваячасовае выкананьне шэрагам калгасаў сваіх абавязкаў перад дзяржавай мы маем, галоўным чынам, таму, што Калгасцэнтр і калгассаюзы не перабудавалі яшчэ сваёй работы ў напрамку кіраўніцтва вытворчасьцю ў калгасах. Арганізацыя вытворчасьці ў калгасах не пастаўлена ў цэнтр увагі і працы ўсяе сыстэмы (неканкрэтнасьць дырэктыў, спазьненьне з дачай заданьняў, недастатковы вытворчы апарат і нізкая кваліфікацыя яго, неўкамплектаванасьць інструктарамі і работнікамі па арганізацыі працы ў калгасах і яўна недастатковае жывое кіраўніцтва і інструктаваньне калгасу, а таксама засьмечанасьць апарату сыстэмы права-апартуністычным і шкодніцкім элемэнтамі, якія сьвядома шкодзяць у рабоце).

Выходзячы з неабходнасьці рашучага ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі, спэцыялізацыі гаспадаркі і арганізацыі высока-таварнай калектыўнай вытворчасьці, 3-ці Ўсебеларускі зьезд калгасаў *пастанаўляе*: зацьвердзіць наступную вытворчую праграму на 1931 год:

а) *давесьці колькасьць калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да канца 1931 году ня менш як 45 проц. Засеяць калектыўна яравы клін плошчы 832.000 га;*

б) засеяць у веснавую сяўбу: зерновых 242.000 *га*, тэхнічных культур—100.000 *га*, у тым ліку лёну—86.000 *га* і табакі—2.500 *га*, бульбы—217.000 *га*, караньплодаў—32.000 *га*, сеяных траў—217.000 *га*, гароднiны—28.000 *га*, у тым ліку прамысловых гародаў—10,000 *га*, сілосных культур—20.000 *га* і іншых—28.000 *га*; і

в) засадзіць 4.000 *га* новых садоў 2.000 *га* ягаднікаў;

г) давесьці абагуленае стада буйнай рагатай жывёлы ў калгасах да 548.300 галоў, у тым ліку вырасьліць 330.000 цялят. Арганізаваць 445 таварных малочных фэрм, з 78.000 галоў прадукцыйнай жывёлы. Забясьпечыць здачу (продаж) дзяржаве ня менш 46.000 тон малака. Засіласаваць 502.000 тон сілоснай масы;

д) давесьці сьвіное пагалоўе ў калгасах па 1.020.000 штук. Арганізаваць 1.300 таварных сьвінагадоўчых фэрм, паставіўшы ў іх 150.000 шт. сьвінаматак, у тым ліку ня менш 100.000 дарослых і забясьпечыць здачу (продаж) дзяржаве ня менш 180.000 адкормленых таварных падсьвінкаў;



Гутарка т. Рачыцкага з калгасьніцамі (на III Усебеларускім зьезьдзе калгасьнікаў).

е) арганізаваць 126 птушкаводных гаспадарак з колькасьцю птушкі 90.000. Арганізаваць 20 трусаводных гаспадарак, паставіўшы ў іх 20.000 галоў. Давесьці плошчу рыбных гаспадарак да 3.000 *га* вадаёмаў;

ж) у галіне рабочае жывёлы ўсямерна захоўваць і паляпшаць конскае пагалоўе, адначасова арганізаваць 7 элевэраў для вырасьліваньня 350 пародзістых жарабкоў, вядучы рашучую барацьбу з недаацэнкай конскае цягавае сілы.

2. Гэта вялізарная вытворчая праграма можа быць выканана толькі пры правядзеньні работы ўсёй калгаснай сыстэмы, усёй калгаснай масай у сапраўднасьці бальшавіцкімі мэтадамі і рашучым узмацненьнем тэмпаў калектывізацыі.

Зьезд абавязвае праўленьне Калгасцэнтру, калгассаюзы і калгасы рашуча ўзмацніць работу па калектывізацыі. Кожны калгас павінен вылучыць у сябе вярбовачную брыгаду для вярбоўкі новых членаў і арганізацыі новых калгасаў. Зьезд ставіць практычнай задачай перад кожным калгасам павялічыць колькасны склад калгасаў да выхаду ў поле ў параўнаньні з колькасьцю, якая мелася на 1-I 1931 г. ня менш як у 2 разы.

Праўленьні калгасаў і калгассаюзы павінны кожную дэкаду правяраць ход калектывізацыі і прымаць практычныя мерапрыемствы па ўзмацненьню тэмпаў.

Калгасы, у мэтах узмацненьня калгаснага прыліву, штодзенна павінны праводзіць масавую работу сярод аднаасобнікаў па вярбоўцы іх у калгасы, шляхам штодзеннага вылучэньня пэўнай колькасьці лепшых перадавых калгасьнікаў для правядзеньня масавай работы сярод аднаасобнікаў.

Калгассаюзы павінны да канца сакавіка правесьці ва ўсіх раёнах спэцыяльныя інструкцыйныя нарады вярбовачных камісій і ініцыятыўных груп, абавязкова забясьпечыўшы на аснове добраахвотнасьці выкананьне кантрольных заданьняў па калектывізацыі, не дапускаючы перагібаў і скажэньняў лініі партыі.

3. Разглядаючы, як права-апартуністычную работу тых Райкалгассаюзаў, якія несваячасова афармляюць новыя калгасы, зьезд абавязвае праўленьне Калгасцэнтру і калгассаюзы праводзіць афармленьне калгасаў і складаньне вытворчых плянаў у іх не пазьней, як на працягу 10 ці дзён з моманту арганізацыі калгасу, забясьпечыўшы адначасова ў паказаны тэрмін адвод зямельных вучасткаў.

Для ўзмацненьня абслугоўваньня новых калгасаў увесьці ўва ўсіх раёнах ня менш як па 10 няштатных інструктароў пры калгассаюзах і абавязкова выканаць плян пасылкі 900 старых калгасьнікаў у новыя калгасы для перадачы

вопыту арганізацыі калектыўнае вытворчасьці і ня менш *6 тысяч 500* чалавек актывістых з новых калгасаў у старыя для азнаямленьня з лепшымі прыкладамі арганізацыі працы і гаспадаркі ў старых калгасах.

4. Зьезд прызнае нездавальняючай работу па замацаваньню новых калгасаў. Несваячасова ствараюцца насенныя фонды, несваячасова абагульваецца рабочая жывёла, прадукцыйная жывёла і асноўныя сродкі вытворчасьці, згодна статуту. Зьезд абавязвае праўленьні калгасаў стварэньне насенных фондаў праводзіць адначасова з афармленьнем калгасаў, узмацніўшы работу па стварэньні кармавых фондаў і абагуленьні рабочае і прадукцыйнае жывёлы.

5. Асабліва важнае значэньне ў справе ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі і арганізацыі калектыўнай вытворчасьці набывае кантрактацыя. Зьезд катэгарычна прапануе праўленьню Калгасцэнтру, калгассаюзам, калгасам узмацніць работу па кантрактацыі, як у калгасах, так і сярод аднаасобнікаў.

6. Вялікую ролю ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі набывае будаўніцтва 23 МТС. Аднак, ход будаўніцтва МТС і падрыхтоўка іх да веснавой сяўбы зьезд прызнае яўна недастатковымі, што тлумачыцца выключна недаацэнкай ролі МТС з боку значнай часткі калгасаў і раённых арганізацый. Недаацэнка ролі МТС заключаецца ў прыватнасьці ў тым, што зусім нездавальняюча маблізуюцца сродкі на будаўніцтва МТС, не аказваецца належнай дапамогі ў падрыхтоўцы кадраў, МТС разглядаюцца як практычныя пункты і г. д.

*Зьезд катэгарычна патрабуе забясьпечыць большую ўвагу ў рабоце МТС, абавязкова выканаўшы заданьне па мабілізацыі сродкаў і забясьпечыўшы бесьперабойную работу МТС.*

7. Адзначаючы значныя посьпехі ў калектывызацыі бядняцка-серадняцкіх мас нацменшасьцяй (павялічэньне колькасьці нацкалгасаў, процант калектывізацыі па нацыянальных сельсаветах і паселішчах вышэй сярэдняга проценту па рэспубліцы), зьезд даручае праўленьню Калгасцэнтру і ўсёй сыстэме яшчэ больш узмацніць работу па калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас нацменшасьцяй і значна палепшыць культурнае і вытворчае абслугоўваньне іх.

8. Асноўнай умовай арганізацыі высока таварнай гаспадаркі і выкананьня вытворчай праграмы зьяўляецца правільная арганізацыя працы і разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю.

Выходзячы з таго, што калгасы зьяўляюцца добраахвотнымі аб'яднаньнямі бядняцка-серадняцкіх мас, і калгасьнікі зьяўляюцца гаспадарамі свайго калгасу, а не наёмнымі рабочымі, зьезд катэгарычна асуджае маючуюся ў радзе месц практыку ўвядзеньня цьвёрдых ставак заробнай платы, з ядоцкім прынцыпам разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю і ўліку працы ў грашох. Такія прынцыпы не забясьпечваюць правільнай арганізацыі гаспадаркі.

Зьезд абавязвае ўсе калгасы безадкладна перайсьці на зьдзельшчыну, на цьвёрдыя нормы выпрацоўкі, на брыгадны мэтад працы, арганізаваць работу мэтадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва, улічваць працу выключна ў працаднёх, разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю праводзіць толькі па колькасьці і якасьці затрачанай працы кожным калгасьнікам, кіруючыся асноўным прынцыпам:—хто больш і лепш працуе,—той больш і атрымлівае, а гультаі і прагульшчыкі павінны разглядацца, як ворагі калгаснае гаспадаркі. Такія прынцыпы арганізацыі працы і разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю павінны быць уведзены і ў камунах.

Зьезд абавязвае калгассаюзы і калгасы правесьці да 15-га красавіка шырокае растлумачэньне калгасьнікам парадку арганізацыі працы і асноўныя прынцыпы разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю.

9. Зьезд зварочвае ўвагу ўсіх калгасаў, усёй калгаснай сыстэмы на неабходнасьць паскарэньня тэмпаў будаўніцтва, патаненьня кошту будаўніцтва і абавязковае выкананьне плянаў гаспадарчага будаўніцтва ў калгасах.

Гаспадарчае будаўніцтва ў калгасах праводзіць з максымальнай эканоміяй сродкаў, поўнасьцю выкарыстоўваючы мясцовыя будаўнічыя матар'ялы.

Зьезд прапануе праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам шырока разьвіць у калгасах майстэрні па вырабу розных рэчаў, патрэбных для гаспадаркі (вяроўкі, дугі, сані і г. д.), адначасова прыняць меры да сваячасовага завозу тых матар'ялаў, якія вырабляюцца на мясцох.

10. Адзначаючы нездавальняючую падрыхтаванасьць большасьці калгасаў да веснавой сяўбы, зьезд указвае ўсім калгасам і калгассаюзам на неабходнасьць мабілізацыі ўсіх сіл на падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы, на ператварэньне веснавой сяўбы ў сапраўдную другую бальшавіцкую калгасную вясну. Застаўшыйся час неабходна па-бальшавіцку выкарыстаць на засыпку, нарыхтоўку і ачыстку насенных фондаў, рамонт інвэнтару, збруі і транспарту, на дастаўку ў калгасы насеньня, машын і ўгнаеньняў.

Зьезд абвяшчае 5 красавіка днём генэральнага агляду ўсіх калгасаў гатоўнасьці іх да веснавой сяўбы, днём спробнага выхаду ў поле.

Улічваючы вялікі недахоп у насеньні гародных культур, траў і кораньплодаў, абавязаць ўсе калгасы арганізаваць нарыхтоўку гэтага насеньня сіламі самых калгасьнікаў. Зьезд прапануе падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы ўвязаць з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі.

11. Калгасныя масы змаглі перабудаваць свае дробныя аднаасобныя гаспадаркі ў буйныя калектыўныя і арганізаваць калектыўную вытворчасьць, якая ўжо палепшыла матар'яльнае становішча калгасьнікаў толькі дзякуючы той дапамозе, якая аказваецца з боку пралетарскай дзяржавы. Далейшы ўздым калгаснае гаспадаркі праходзіць таксама пры вялізарнай вытворчай дапамозе з боку дзяржавы. У бягучым годзе вызначана *38 мільёнаў* руб. на крэдытаваньне калгасаў і трактарны парк павялічваецца на *1 тысячу 388 машын*, таму і калгасы ў сваю чаргу павінны зрабіць усё магчымае для таго, каб з максымальнай эфэктыўнасьцю выкарыстаць капітальныя ўкладаньні, мабілізаваць унутраныя рэсурсы (уступныя ўзносы, непадзельныя капіталы, рэалізацыя акцый Трактарацэнтру) і, як найхутчэй, забясьпечыць запатрабаваньні дзяржавы на прадукцыю сельскае гаспадаркі.

Забясьпечваючы ўсе мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці, па разгортваньні жывёлагадоўлі, па ўзьняцьці таварнасьці—калгасная сыстэма павінна забясьпечыць сваячасовае выкананьне калгасамі сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай па здачы (продажу) таварных лішкаў прадукцыі.

Зьезд разглядае сувязь калгасаў з прыватным рынкам, продаж таварнай прадукцыі гандлярам, як антыкалгасную кулацкую дзейнасьць, варожую інтарэсам калгаснага будаўніцтва і калгасных мас. Зьезд даручае праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам у адносінах такіх калгасаў прымаць рашучыя меры (спыняючы абслугоўваньне, закрываючы крэдыты, датэрмінова спаганяючы крэдыты і г. д.).

Той калгас, які ня выконвае сваіх абавязкаў перад дзяржавай, зьвязваецца з гандлярамі, разбазарвае таварную прадукцыю, зьяўляецца прамым памоцнікам клясаваму ворагу. Праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам арганізоўваць снабжэньне калгасаў прамтаварамі, выходзячы з таго, як той ці іншы калгас выконвае свае абацянкі перад дзяржавай.

12. Шпаркі тэмп калгаснага будаўніцтва і неабходнасьць рашучага палепшаньня работы калгасаў з усёй сілай патрабуюць хутчэйшай перабудовы работы і кіраўніцтва як Колгасцэнтру, так і колгассаюзаў у напрамку лепшай арганізацыі і кіраўніцтва вытворчасьцю ў калгасах.

Праўленьне Калгасцэнтру павінна забясьпечыць плянавае кіраўніцтва, абагуленьне вопыту работы месц, сваячасовую дасылку кіруючых матар'ялаў, арганізаваць інструктаваньне калгассаюзаў і праверку выкананьня імі дырэктыў і вытворчых плянаў. Непасрэдная-ж работа па арганізацыі вытворчасьці і вытворчы апарат павінен быць сканцэнтраваны ў раёнах і спэцыяльных калгасных цэнтрах. Калгассаюзы павінны ператварыцца ў сапраўдныя штабы арганізацыі калектыўнае вытворчасьці ў калгасах. Калгассаюзы павінны безадкладна ад агульнага кіраўніцтва перайсьці да непасрэднага канкрэтнага кіраўніцтва вы-

творчасьцю ў калгасах, пабудаваўшы сваю работу на аснове арганізацыі ініцыятывы калгасных мас на выкананьне вытворчых заданьняў.

Правядзеньне вытворчых нарад у калгасах, нарад старшынь калгасаў, кіраўнікоў асобных галін гаспадаркі, сыстэматычнае наведваньне калгасаў і аказаньне ім практычнай дапамогі на месцы павінна стаць пастаянным мэтадам працы.

Практыку пасылкі брыгад з лепшых перадавых калгасаў у адстаючыя для дапамогі ім і перадачы лепшага вопыту, арганізацыі вытворчасьці і працы трэба ўсямерна пашырыць.

Зьезд лічыць абсалютна недапушчальным недысцыплінаванасьць, якая наглядаецца ў сыстэме. Адсутнасьць чоткасьці ў працы і адказнасьці з боку значнай часткі саюзаў, апэрацыйнасьці і г. д., можна тлумачыць толькі тым, што значная частка работнікаў сыстэмы не пазбавілася старых каапэрацыйных меншавіцкіх мэтадаў працы і не аўладала бальшавіцкімі мэтадамі. Зьезд даручае праўленьню Калгасцэнтру рашуча весьці барацьбу з недысцыплінаванасьцю, нячоткасьцю,—адсутнасьцю адказнасьці за працу ў сыстэме.

Зьезд даручае Калгасцэнтру распрацаваць і правесьці шэраг рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў па спрашчэньні і палепшаньні работы апарату.

13. Важнае значэньне ў кіраўніцтве калгасамі набывае прыцягненьне да кіраўніцтва ў калгасах перадавых, адданых справе калектывізацыі сераднякоў і асабліва жанчын-калгасьніц.

Зьезд даручае Праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам пільна сачыць за тым, каб дырэктывы партыі і ўраду аб прыцягненьні да кіраўніцтва калгаснай гаспадаркай серадняков і жанчын-калгасьніц поўнасьцю былі выкананы. Адначасова зьезд даручае Калгасцэнтру распрацаваць спэцыяльныя мерапрыемствы на вывучэньне лепшых перадавых калгасьнікаў і калгасьніц з боку батракоў, беднякоў і лепшых серадняков на кіруючую работу ў калгассаюзы і Колгасцэнтр.

14. Адзначаючы вялізарную ролю, якую адыгралі 25-тысячнікі ў калектывізацыі і арганізацыі гаспадаркі, зьезд патрабуе ад усёй калгаснай сыстэмы стварэньня лепшых умоў працы і аказаньня дапамогі ў працы 25-ці тысячнікаў. Абавязаць калгассаюзы на працягу першай паловы красавіка месяца вярнуць усіх 25-цітысячнікаў, якія працуюць не ў калгаснай сыстэме, для непасрэднай працы ў калгасах і калгасных органах.

15. Надзвычайна вялікае значэньне ў колгасным будаўніцтве набывае падрыхтоўка колгасных кадраў і арганізацыя культасьветнай і масавай работы у колгасах. Ход падрыхтоўкі кадраў і разгортваньня культасьветнай масавай і бытавой работы адстае ад тэмпу калгаснага будаўніцтва і запатрабаваньняў з боку калгасных мас.

Праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам узмацніць работу па павышэньні сеткі культбытавых установ у калгасах і палепшаньні працы іх (клюбы, хатычытальні, сталоўкі, дзіцячыя яслі і г. д.).

Зьезд лічыць неабходным, каб Наркамасьветы і Наркамаховы здароўя распрацавалі і ажыцьцявілі шэраг мерапрыемстваў па лініі культурнага абслугоўваньня калгасаў і лекавай дапамогі.

Надаючы асаблівае значэньне друку ў справе арганізацыі калектыўнае вытворчасьці, зьезд абавязвае ўсю калгасную сыстэму прыняць меры да распаўсюджаньня газэт, часопісаў і іншай літаратуры сярод калгасаў, адначасова паставіць практычнай задачай, каб у кожным калгасе было арганізавана выданьне насьценгазэт.

16. Зьезд абавязвае ўсе калгасы, усіх калгасьнікаў аказваць усямерную дапамогу сёнешнім яшчэ аднаасобнікам у хутчэйшым пераходзе іх у калгас. Арганізаваць вытворчую дапамогу бядняцкасераднячкім гаспадаркам у прадстаячую сяўбу складанымі машынамі, сельскагаспадарчым інвэнтаром, цягавай сілай і г. д.

17. Улічваючы неабходнасьць усямернага ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, зьезд абавязвае ўсю сыстэму арганізаваць шырокае правядзеньне работы па ваенізацыі калгасных мас, шляхам арганізацыі ячэек Асовіахіму, стралковых гурткоў, разьвіцьця спорту і г. д.

# РАШАЮЧЫЯ ДНІ

**Арганізавана, з бальшавіцкай заўзятасьцю выступіць у поле.**

**Кожную гадзіну—на дасканалы вучот.**

## ПЛЯНЫ СЯЎБЫ БУДУЦЬ ВЫКАНАНЫ

*(Крычаўскі раён)*

Калгась „Чырвоны Барацьбіт“ і „Заветы Леніна“ паказваюць сапраўдныя бальшавіцкія прыклады вядзеньня калектыўнай гаспадаркі. Асабліва добрыя прыклады паказваюць гэтыя калгасы ў галіне падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай вясны.

Калгас „Чырвоны барацьбіт“ яшчэ ў пачатку зімы пачаў падрыхтоўку да веснавой сяўбы. Складзены плян сяўбы шырока абгаварваўся на вытворчай нарадзе і агульным сходзе калгасьнікаў.

— Пасяўную плошчу трэба пашырыць,—заявілі калгасьнікі.

Аб пашырэньні пасяўной плошчы запісалі ў пратакол і ў плян. Плошча пашыраецца ў гэтым годзе на 50 *га* за лік раскарчовак і скарачэньня папару.

Калгасам будзе засеяна ў гэтую вясну: пшаніцай—32 *га*, аўсом—805 *га*, ячменем—20 *га*, гарохам—10 *га* (у мінулым годзе было 2 *га*), грачыхай — 30 *га*, замест 7 *га* ў мінулым годзе, канаплёй — 7 *га*, замест 2 *га* у мінулым годзе, бульбай—85 *га*, замест 32 *га* ў мінулым годзе, вікай—32 *га*, замест 24 *га*. Караньплодаў у мінулую вясну было засеяна паўгектара, а сёлета—10 *га*, сілоснымі культурамі будзе засеяна 5,5 *га*.

Ачыстка насеньня даўно ўжо праведзена.

Вытворчы плян калгасу прадугледжвае дасканалую расстаноўку рабочай сілы як у веснавую сяўбу, так і ў час уборкі ўраджаю. Калгас забясьпечан цягавай сілы і інвэнтаром. Створаны кармавы фонд у 600 пудоў сена на час веснавой сяўбы. Усе работы ў калгасе пераведзены на зьдзельшчыну.

Пробны выезд у поле, які адбыўся ў канцы сакавіка, паказаў, што работы, намечаныя плянам, будуць поўнасьцю выкананы, нават з правышэньнем.

Таксама падрыхтавана выступае ў поле і калгас „Заветы Леніна“. Вытворчы плян даведзены да кожнай брыгады і калгасьніка. Кожны калгасьнік ведае сваю задачу ў час веснавой сяўбы.

Яравы клін калгас пашырае на 27 проц. за лік раскарчовак і распашак. Будзе засеяна: яравой пшаніцай—5 *га*, ячменем—12 *га*, грачыхай—4 *га*, аўсом—23 *га*, бульбай — 35 *га*, лёнам — 11 *га*, канаплёй—2 *га*, караньплодамі—5 *га*, сілоснымі культурамі — 3 *га*, канюшынай—28 *га*. Насенным матар'ялам калгас забясьпечан поўнасьцю. Сабрана 200 пуд. попелу, завезена штучнае ўгнаеньне.

У час падрыхтоўкі да сяўбы ў калгас „Заветы Леніна“ ўступіла 14 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У абодвых памянёных калгасах шырока разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Калгасы „Чырвоны барацьбіт“ і „Заветы Леніна“ выклікалі на сацспаборніцтва навакольныя калгасы на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы і выкананьне ўсіх намечаных плянаў.

**Васіль Бунтар.**

# УСЁ ГАТОВА К СЯЎБЕ

*(Шклоўскі раён)*

Да веснавой сяўбы калгас падрыхтаваўся добра як у сэнсе насеннага фонду, так і расстаноўкі працоўнай сілы.

Пад яравы клін будзе засеяна ўсяго 183 *га*: аўса 85 *га*, ільну 10 *га*, канапель 2 *га*, бульбы 45 *га*, ячменю 20 *га*, пшаніцы 5 *га*, лубіну 5 *га*, вікі 10 *га*. Маючыяся сельскагаспадарчыя машыны, як жняяркі, сеялкі і рандалі ў спраўнасьці, адрамантавана 10 плугоў.

Акрамя таго, нарыхтавана 85 пастронкаў, 12 вяровак і 25 лейцаў, а таксама перагледжаны хамуты.

Кармавы фонд для коняй забраніраваны — 500 пуд. сена, 150 пуд. аўса і 50 пуд. пазаднага жыта на рэзь. Рабочая сіла разьбіта на асобныя брыгады па 15 чалавек: на ворыва, вывазку гною, баранаваньне, а рэшта будзе скарыстана на будаўніцтве.

Устаноўлена норма выпрацоўкі, зьдзельшчына шырока будзе прымяняцца, напрыклад: успашка параконным плугам 0,75 *га* у 10-гадзінны дзень, вывозка гною 15 вазоў у дзень, касьба 4 чал. на адзін *га*.

Заключана ўмова з МТС, якая дапаможа з большым посьпехам выканаць пляны сяўбы.

**Ш. Г.**



Сьвіньня з прыплодам у калгасе.



Ударная брыгада на вытворчасьці.

# ПЕРАЙШЛІ НА ЗЬДЗЕЛЬШЧЫНУ

*(Ветрынскі раён)*

Пытаньню арганізацыі працы ў калгасах на Ветрыншчыне ў апошнія часы зьвернута шмат увагі, асабліва ў зьвязку з правядзеньнем веснавой сяўбы.

Калгас „Новы Шлях“ прыняў зьдзельшчыну і гэтае пытаньне даведзена да кожнага калгасьніка.

Калгас „Труд“ мае 82 гаспадаркі. Пры наліччы больш 200 працаздольных зрабіў наступнае:

Пытаньні арганізацыі працы абгаварылася на агульным сходзе калгасьнікаў і дзякуючы таму, што ў мінулым годзе „Труд“ быў арганізаваны дрэнна, падзёншчына стала для ўсіх відавочна, нявыгаднай,—агульны сход вынес пастанову перайсьці на зьдзельшчыну. Тарыфна-нарміровачная камісія сумесна з актывам абгаварыла гэтае пытаньне, а таксама і вытворчая нарада.

Для кіраўніцтва арганізацыяй і расстаноўкай рабочай сілы выдзелен сябра праўленьня. Прапрацаваны расцэнкі нормы па кожнай галіне працы асобна.

Уся работа на полі ў час сяўбы і ўборкі будзе праводзіцца групавой зьдзельшчынай. Выдзелены брыгадзіры па кожнай галіне.

Замацаваны на веснавы час для правядзеньня рамонтных работ у падсобныя прадпрыемствы: 3 сталяры, 4 кавалі, скотнікі і г. д.

Брыгады арганізаваны невялікія, ня больш 12—15 асоб.

Да гэтага часу калгасьнікі хадзілі на працу ў цэнтр калгасу на адлегласьці 1—2 кілёмэтраў і гэтым трацілі лішні час. Зараз пастаўлена пытаньне так, каб арганізаваць працу зусім інакш. Вызначаны распарадчыкі работ, якія арганізуюць працу на мясцох па ўказаньні праўленьня і ў крайнім выпадку перакіданьне брыгады цалкам на тую ці іншую працу.

Калгас „Труд“ выклікаў на лепшую арганізацыю працы ў час сяўбы калгас „Фрунзэ“. Заключана спэцыяльная ўмова.

Селькор Гур.



Сход дэлегатак-калгасьніц па абгаварэньні пляну веснавой сяўбы.

# СТАЛІНСКІ ПРЫЛІЎ

*(Шклоўскі раён)*

Падрыхтоўка да другой бальшавіцкай вясны па Шклоўскаму раёну праходзіла поруч з далейшым ростам калгасаў.

Дзякуючы напружанай і сыстэматычнай працы раённай партыйнай арганізацыі, а таксама ўсяго актыву калгасьнікаў і настаўніцтва маюцца значныя вынікі. На 20 сакавіка калектывізавана ў раёне 25 проц. гаспадарак. За час падрыхтоўкі да веснавой сяўбы і шырокай папулярызацыі Сталінскага прыліву ў калгасы ўлілося звыш *550 гаспадарак.*

Калгасны актыў на сходзе з аднаасобнікамі рабілі выклік знаёмага ім яшчэ ня ўступіўшага ў калгас бедняка альбо серадняка, які выклік прымаў і ў сваю чаргу выклікаў другога. Такім мэтадам у калгас „Чырвоны Араты“ (Гарадзішча) улілося 15 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У раёне ёсьць сельскія саветы, як Брашчанскі, Акунёўскі, Таўкачэўскі, Гарадзішчанскі, якія калектывізаваны звыш 50 проц. Можна сьмела сказаць, што Шклоўскі раён у гэтую веснавую сяўбу будзе калектывізаваны на 50 проц.

**Г. Шумілаў.**

## Зьдзельшчына—удар па кулаку, гультаю і разгільдзяю.

# У паход за зьдзельшчыну

„РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ КАЛГАСНЫХ ДАХОДАЎ ПА ПРЫНЦЫПУ: ХТО БОЛЬШ І ЛЕПШ ПРАЦУЕ, ТОЙ БОЛЬШ АТРЫМОЎВАЕ, ХТО НЕ ПРАЦУЕ, ТОЙ НІЧОГА НЕ АТРЫМОЎВАЕ, — ПАВІННА СТАЦЬ ПРАВІЛАМ ДЛЯ ЎСІХ КАЛГАСАЎ І КАЛГАСЬНІКАЎ“.

*(З рэзалюцыі VI Усесаюзнага зьезду саветаў).*

## ПЫТАНЬНІ АРГАНІЗАЦЫІ ПРАЦЫ Ў КАЛГАСАХ

У выніку няпрымірымай барацьбы на два фронты: з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва і „левымі“ анты-серадняцкімі загібамі і прымірэнцтвам да іх, — партыяй дасягнуты аграмадныя посьпехі ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Далейшае пасьпяховае выкананьне пляну калектывізацыі сельскай гаспадаркі са ўсёй войстрасьцю высоўвае асноўную задачу—умацаваньня калгасаў шляхам правільных мэтадаў арганізацыі калектыўнай працы.

Да гэтага часу ў гэтых адносінах калгасы ня маюць яшчэ належнага пераламу. Маецца шэраг фактаў расхлябанасьці, безгаспадарчасьці, недысцыплінаванасьці, нерацыянальнага скарыстаньня магчымасьцяй калектыўнай вытворчасьці. Часта траціцца шмат часу на збор рабочай сілы пры нарадах, на непатрэбную перакідку калгасьнікаў з аднэй работы на другую. Шмат траціцца часу на „перакідку“, лішнія гутаркі. Усе гэтыя факты адбіваюцца на вытворчасьці гаспадаркі.

У другую бальшавіцкую сяўбу павінен быць пакладзен канец такім адносінам да колектыўнай працы. Трэба зрабіць рашучы паварот у бок павышэньня вытворчасьці працы на аснове ўвядзеньня такіх форм арганізацыі працы і разьмеркаваньня вынікаў гаспадарчага году, якія-б заахвочвалі калгасьнікаў к павышэньню колькасных і якасных паказьнікаў сваёй работы.

Аднэй з такіх форм арганізацыі калектыўнай працы зьяўляецца зьдзельшчына, пры якой ацэньваецца работа не па колькасьці прапрацаванага часу, а па якасьці і колькасьці зробленай работы. На вопыце шэрагу калгасаў зьдзельшчына апраўдала сябе, як лепшы мэтад павышэньня вытворчасьці калектыўнай працы, умацаваньня гаспадаркі і пасьпяховай барацьбы з кулацкімі настроямі ўнутры калгасу.

У калгасе „Энгельс“ бяз зьдзельшчыны трацілася на прыборку 1-га гектару бульбы 24 чалавекадні, а пры ўвядзеньні норм выпрацоўкі і зьдзельных работ—затраты зьнізіліся да 14 чалавекадзён. Бяз зьдзельшчыны на прыборку 175 *га* бульбы траціласяя 4.200 чалавекадзён, а пры зьдзельшчыне—2.450 чалавекадзён, пры чым палепшалася і якасьць працы.

Увядзеньне зьдзельных работ у калгасах у сваю чаргу патрабуе точнага ўстанаўленьня норм выпрацоўкі па кожнаму паасобнаму віду работ. Прыкладна—1 чалавек пры 1 кані адналямешным плугам у 10-гадзінны рабочы дзень можа ўспахаць сярэдняй глебы на глыбіні 12 *см*—0,5 *га* альбо адна даярка за дзень у веснавы час павінна выдаіць пры 12 каровах 70 літраў малака. За гэтыя работы пры ўмове выпрацоўкі норм калгасам—яму налічваецца 1—1½ працадні. Побач з устанаўленьнем норм выпрацоўкі па кожнай працы, дзе ўлічваецца ня

толькі колькасьць работы, але і абавязкова яе якасьць — калгасам робіцца ацэнка кожнага яе віду ў працы—адзінках (працадзень) прыкладна так:

1) Пашня адналямешным плугом на 1 каня ў 10-гадзінны рабочы дзень пры норме выпрацоўкі 0,5 *га* налічваецца 1,5 працадні.

2) Успашка трактарам „Кр. Пуцілавец“ у 1 зьмену пры норме работы 2 *га* налічваецца 2 працадні.

3) Баранаваньне ў 2 сьляды трохзьвеннай бараной „Зіг-Заг“ пры пары конях з дзённай вытворчасьцю (10 гадзін) 2 *га* налічваецца 0,34 працадні і г. д. Па кожнаму паасобнаму віду работы.

Устаноўленыя нормы выпрацоўкі калгасаў і расцэнкі работ даводзяцца да кожнага асобнага калгасьніка з тэй мэтай, каб ён пры прыступленьні да працы ведаў разьмер дзеннай выпрацоўкі і пры выпаўненьні яе ведаў, якую колькасьць працадзён яму налічваецца. Зьдзельныя работы прымянімы ва ўсіх галінах калгаснай вытворчасьці, за выключэньнем асобных работ, якія цяжка паддаюцца альбо зусім не паддаюцца іх нарміраваньню, напрыклад: вартаўнік па саду, за стадам, бухгальтар, старшыня праўленьня ў тым выпадку, калі ён вызвален ад вытворчых работ і інш.

Зьдзельшчына можа быць наступных 3-х асноўных форм: 1) брыгадная, 2) групавая, 3) індывідуальная.

Брыгаднай зьдзельшчынай называецца такая зьдзельшчына, калі тая ці іншая работа выконваецца зьдзельна ўсёй брыгадай (брыгада аратых, брыгада трактарыстых), таксама і ў адносінах да групавой і індывідуальнай зьдзельшчыны. Брыгадная зьдзельшчына добра і выгадна пры спэцыялізаваных брыгадах, дзе члены яе ўсе выконваюць аднолькавую работу. На даны час, пры ўмове стварэньня камбінаваных брыгад, трэба раіць, як найбольш выгадную форму зьдзельных работ — групавую зьдзельшчыну (група аратых, баранавальшчыкаў у брыгадзе паляводзтва і г. д.), але ні ў якім выпадку не ігнараваць індывідуальную зьдзельшчыну.

Пераход на зьдзельную работу ў калгасах адкрывае шырокія магчымасьці прымяненьня новых сацыялістычных мэтадаў вытворчасьці, як-та: сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, сустрэчны прамфінплян і г. д. Усё гэта павінна стымулявацца ў выглядзе прэмій за лепшую работу за перавыкананьне норм выпрацоўкі, кантрольных лічбаў, лепшая якасьць і інш. паказьнікі, накіраваныя на павышэньне вытворчасьці калектыўнай працы.

У другую бальшавіцкую вясну ніводнага калгасу не павінна застацца пры старых формах арганізацыі працы (паядоцкая, падзённая грашовая), якія ў тым ці іншым выглядзе ліюць ваду на мельніцу клясавых ворагаў. Ніводнага калгасу бяз зьдзельшчыны работ—вось лёзунг, які нанясе рашучы ўдар па ворагу, па кулацкаму ўплыву ўнутры калгасу, па спажывецкіх настроях. За зьдзельшчыну, за соцыялістычныя формы і мэтады арганізацыі калектыўнай працы

### Брыгадная сыстэма

Побач з зьдзельшчынай аграмадную ўвагу заслугоўваюць брыгадныя сыстэмы арганізацыі працы, як адна з лепшых спосабаў павышэньня вытворчасьці працы, павышэньня грамадзкай працдысцыпліны, грамадзкай адказнасьці, узаемадапамогі, самакантролю, садзейнічаючы канчатковаму зьнішчэньню дробна-ўласьніцкай псыхолёгіі калгасьніка.

Асноўнымі формамі брыгад у даную веснавую сяўбу павінна быць—гэта камбінаваная і спэцыялізаваная, з перавагай першай.

У спэцыялізаванай брыгадзе ўсе яе вучасткі выконваюць адну спэцыяльную работу, напрыклад: трактарысты, даяркі, касцы. Камбінаваная-ж брыгада выконвае адразу некалькі пасьлядоўных відаў работ, напрыклад: брыгадная паляводзтва мае ў сваім складзе рад груп—аратых, сяўцоў, баранавальшчыкаў, падвозчыкаў, якія выконваюць усе віды работ паляводзтва. Таксама і ў жывёлагадоўлі, гародніцтве і іншых галінах сельскай вытворчасьці. Брыгада разьбіваецца на рад груп, напрыклад, брыгада па працы на скотным дварэ ў колькасьці 40 чалавек дзеліцца на 4 групы:

1-я група — даільшчыцы ў складзе 13 чалавек,

2-я група—па вырасьліваньні маладняка ў складзе 9 чалавек,

3-я група—па догляду за малочна-продукцыйнай жывёлай у складзе 11 чалавек,

4-я група—па працы ў сьвінарніках у складзе 7 чалавек.

Такім чынам адбываецца разьмеркаваньне працы і яе спэцыялізацыя ўнутры брыгады, паміж асобнымі групамі, а затым ужо група разьмяркоўвае свае абавязкі паміж асобнымі яе членамі.

Брыгады арганізоўваюцца на добраахвотных началах, але пры абавязковым рэгуляваньні іх складу з боку праўленьня калгасу. Склад брыгады можа быць сталым, сэзонным і часовым, у залежнасьці ад умоў кожнай галіны гаспадаркі, напрыклад: у жывёлагадоўлі, дзе работа адбываецца круглы год, лепш сталыя брыгады, у лугаводзтве—сэзонныя, у іншых работах часовыя. Да кожнай брыгады, пад яе адказнасьць, трэба прымацаваць патрэбны ей для выкананьня работ жывы і мёртвы інвэнтар, матар'ялы і інструманты, гэта забясьпечыць яго лепшую захаванасьць, створыць адчуваньне колектыўнай адказнасьці, рашуча б'е па клясаваму ворагу і яго ўплыву ў калектыўнай гаспадарцы.

Для кіраўніцтва брыгадай праўленьнем пры абгаварэньні на агульных сходах калгасьнікаў прызначаецца з лепшых калгасьнікаў старшы брыгады (брыгадзір), які ў той-жа час нясе адказнасьць за работу брыгады перад праўленьнем, а таксама і перад усім калгасам.

*Плянаваньне працы ў калгасах*

Ня можа быць правільнай вытворчай формы арганізацыі працы бяз пляну, без дасканальнага вучоту налічча запасу рабочай сілы гаспадаркі, бяз вучоту, на аснове ўстаноўленых норм выпрацоўкі патрэбнасьці ў гэтай рабочай сіле для кожнай галіны работы і ўсёй гаспадаркі ў цэлым. Бяз пляну немагчыма правільная расстаноўка рабочай сілы па вытворчасьці, аднолькавае яе разьмеркаваньне і нагрузка па асобным гаспадарчым перыядам году, рацыянальнае скарыстаньне



Ударнік-рабочы за сваім вынаходзтвам.

лішкаў рабочай сілы, як у асобны гаспадарчы пэрыяд, а таксама і за ўвесь год.

У кожным калгасе павінен быць плян скарыстаньня рабочай сілы, які складаецца на аснове гадавога вытворчага пляну, а за тым па пэрыядам рабочых праграм. Гэтыя пляны складаюцца пры ўдзеле шырокіх калгасных мас, контрольныя лічбы шырока абгаварваюцца на ўсіх вытворчых нарадах і сходах, трэба паставіць справу так, каб кожная брыгада, кожны калгасьнік ведаў, што яму неабходна рабіць, дзе, калі і колькі, якую колькасьць працоўных затрат патрабуе вытворчасьць у кожным квартале, а таксама за год.

Такім давядзеньнем контрольных лічбаў вытворчасьці да кожнага калгасьніка, у яго створыцца самаініцыятыва, ня толькі к іх выкананьню, але і к перавыкананьню, ініцыятыва к соцыялістычнаму спаборніцтву, ударніцтву, выстаўленьню сваіх сустрэчных контрольных лічбаў.

Выкананьне пляну павінна падвяргацца дасканальнаму грамадзкаму контролю, праз сводкі, насьценныя газэты,

вытворчыя нарады, друк і спэцыяльныя сходы, прысьвечаныя праверцы выкананьню пляна.

### *Скарыстаньне рабочай сілы*

Да гэтага часу калгасы мала ўдзялялі ўвагі на рацыянальнае скарыстаньне запасу сваёй рабочай сілы, на павышэньне працоўнай нагрузкі кожнага калгасьніка.

З матар'ялаў Інстытуту соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі па Лязьнянскаму раёну процант скарыстаньня рабочай сілы за год ровен 55,6, па Слуцкаму—57,5 проц. Па 9 калгасам БССР (з матар'ялаў БАН) 55,1 проц. Асабліва нізка скарыстаны жаночая праца па Лязьнянскаму раёну—42,4, па Слуцкаму—49,8 проц., па 9 калгасам БССР—47,5 проц. Прычынай такога нізкага проценту скарыстаньня жаночай працы зьяўляецца: недастатковая наладжанасьць культасьветнай работы.

Такім фактам нізкай працанапружанасьці ў даную веснавую сяўбу калгасы павінны пакласьці канец. Усё наліччa рабочай сілы ў гаспадарцы павінна быць рацыянальна скарыстана, з аднаго боку, унутры колгасу, за лік пашырэньня працаёмкасьці культур і арганізацыі паасобных прадпрыемстваў, з другога боку— значная частка павінна быць накіравана ў прамысловасьць, якая ў гэтым годзе патрабуе 11 мільёнаў рабочых рук.

У арганізацыі адходніцтва трэба змагацца за плянавы адход шляхам заключэньня дагавароў з гаспадарчымі органамі, каапэрацыяй, саўгасамі і. г. д. У той-жа час дапускаць неарганізаваны (аднаасабовы) адход пры абавязковым узгадненьні з праўленьнем калгасу.

Для шырокага скарыстаньня жаночай працы ў калгасе і падняцьця ініцыятывы у жанчыны — неабходна практыкаваць стварэньне спэцыяльных жаночых брыгад, жаночых вытворчых нарад, высоўваньне жанчын на адказную работу ў гаспадарцы, брыгадзірамі, загадчыцамі галінамі, нарадчыцамі і г. д. Усе гэтыя мэтады зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі вытворчай актывізацыі жанчыны, дапамагаюць уздыму яе ініцыятывы ў справе павышэньня вытворчасьці працы, умацаваньню калектывізацыі гаспадаркі і барацьбе за масавы калгасны прыліў.

### Вучот працы

Ня можа быць добра наладжанай вытворчасьці, правільнай арганізацыі працы без яе вучоту. Таму вучот у справе арганізацыі працы і ўсёй гаспадаркі адно з галоўных месц.

Да гэтага часу ў пераважнай большасьці калгасаў праца ўлічваецца грашмі, што часта ў калгасьнікаў стварала адчуваньне лічыць сябе за нанятага рабочага, чым скажалась сутнасьць калектыўнай гаспадаркі і грала на руку кулаку. Такому грашоваму мэтаду працы і разьліку з членамі трэба пакласьці канец. Разьлікі і ацэнка працы павінны вытварацца працадзінкамі, якія атрымоўваюцца ў выніку колькасьці і якасьці на пэўны від работы затрачанай працы. Усё гэта ўкладваецца ў асноўную форму вучоту працы, табель-нарад, які у той-жа час зьяўляецца канчатковым бухгальтэрскім дакумэнтам і з якога сьпісваецца ў працоўныя кніжкі кожнага калгасьніка альбо даецца яму дакумант (месячныя прац. карткі) з той мэтай, каб ён штодзенна ведаў колькі выпрацаваў і колькі яму за гэтую работу налічваецца працадзён.

Вучот працы, а таксама ўсёй гаспадаркі павінен займаць адно з галоўнейшых месц у працы, бо *„толькі дасканалая пастаноўка вучоту і кантролю, толькі стражайшая арганізацыя і працоўная дысцыпліна прывядуць нас да сацыялізму — бяз гэтага сацыялізму няма“* (Ленін).

**Шырэй разгорнем сацспаборніцтва і ўдарніцтва! Падымем працоўную дысцыпліну, выкуем новыя сацыялістычныя формы працы.**



Палявая перасовачная сталоўка ў час веснавой сяўбы.

### Сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Важнейшым мэтадам у справе соцыялістычнага выхаваньня калгасьніка, уздыму творчай ініцыятывы мас у барацьбе за выкананьне і перавыканьне плянаў работ, павышэньне вытворчасьці калектыўнай працы — зьяўляецца сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Увядзеньне ў практыку калектыўнай працы зьдзельшчыны, брыгаднай формы работы, плянавасьці і правільных соцыялістычных мэтадаў вучоту працы і разьліку з членамі адкрываюць шырокія магчымасьці да ўжываньня сацспаборніцтва як паміж асобнымі брыгадамі, групамі, калгасьнікамі, калгасамі, а таксама з асобнымі саўгасамі і прамысловымі прадпрыемствамі.

Канкрэтнымі задачамі спаборніцтва павінна быць: выкананьне і перавыкананьне кантрольных лічбаў пляну брыгады, калгасу ў цэлым, выкананьне і перавыкананьне норм выпрацоўкі, павышэньне вытворчасьці працы, палепшаньне якасьці працы, барацьба з гультайствам, разгільдзяйствам, безгаспадарчасьцю, з кулацкімі настроямі, за ўзорную вытворчую дысцыпліну, за рацыяналізацыю калектыўнай працы.

У другую бальшавіцкую вясну неабходна зьвярнуць максімальную ўвагу ня толькі на пашырэньне ахопу сацспаборніцтвам калгасаў, але і на палепшаньне яго якаснага зьместу.

Сацспаборніцтва арганізоўваецца самымі масамі, пры іх ініцыятыве, яно перарастае ў вышэйшую форму соцыялістычных мэтадаў вытворчасьці—ўдарніцтва, якое акрамя чоткага, акуратнага выкананьня заданьняў змагаецца за перамогу ўсіх перашкод на шляху пасьпяховага выкананьня намечаных работ. Вялікае значаньне для палепшаньня якаснага зьместу соцыялістычнага спа-

борніцтва і ўдарніцтва, а таксама ўсёй вытворчасьці мае грамадзкі кантроль. Гэты кантроль павінен ажыцьцяўляцца праз вытворчыя нарады, на якіх абгаварваюцца ўсе дасягненьні, недахопы калектыўнай вытворчасьці, зьбіраюцца прапановы калгасьнікаў аб мэтадах палепшаньня вытворчасьці.

Кантраліраваньне работы таксама адбываецца праз спэцыяльныя кантрольныя брыгады, рэгулярныя сводкі, насьценазэты і г. д.

Другая бальшавіцкая вясна павінна быць пераломнай вясной у справе пераходу калгасаў з падзёншчыны і грашовых разьлікаў—на зьдзельшчыну, на брыгадныя формы работы, на разьлікі ў працоўным выражэньні, у барацьбе за сацыялістычныя мэтады працы, за якасьць, за працоўную дысцыпліну і максымальна працоўную разгрузку кожнага калгасьніка. Пасьпяховае правядзеньне ў жыцьцё гэтых задач у галіне арганізацыі працы залежыць ад таго, як рашуча калгасамі і асобнымі работнікамі вядзецца барацьба з кулацтвам, як рашуча вядзецца барацьба з правым і „левым" апартунізмам і прымірэнчымі адносінамі да іх, як вядзецца барацьба за штодзеннае правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі.

Сацыялістычныя мэтады арганізацыі працы зьяўляюцца лепшым залогам у справе ўмацаваньня калектыўнай гаспадаркі ў справе арганізацыі новага больш магутнага калгаснага прыліву.

**Ф. Дзьмітрыеў.**

## У веснавую сяўбу—кожны калгасьнік павінен быць ударнікам.



Племянны храк калгасу „Труд"

# ВУЧОТ ПРАЦЫ Ў КАЛГАСЕ

**Дзе няма вучоту—няма калгаса, як арганізаванай гаспадаркі (з дакладу т. Якаўлева на VI Усесаюзным зьезьдзе саветаў).**

### I. Значэньне вучоту працы.

Правільная арганізацыя працы ў калгасе ня можа існаваць бяз добра пастаўленага вучоту. Дакладная і пільная праца па вучоту спрыяе ўмацаваньню працдысцыпліны і ўкараняе сацыялістычныя мэтады працы (сацспаборніцтва і ўдарніцтва), плянаваму скарыстаньню рабсілы і падвышэньню вытворчай працы.

Асабліва вялікае значэньне вучот працы мае ў даны час у сувязі з пераходам на нарміраваную зьдзельную працу. Толькі пры добра пастаўленым вучоце колькасных і якасных паказчыкаў у калгасе — пытаньне аб нормах выпрацоўкі разьвязваецца ня цяжка.

Добра адзначыць вынікі сацспаборніцтва і ўдарніцтва шляхам прэміраваньня за ўзоры добраякаснай працы, выявіць найбольш слабыя месцы асобных вучасткаў працы і своячасова ўмацаваць іх. Зноў-жа пры наліччы добра пастаўленага вучоту. Адсутнасьцю вучоту, альбо няправільнай пастаноўкай апошняга, карыстаецца клясавы вораг— кулак і яго агентура, які распускае чуткі, што ў калгасе безгаспадарчасьць, што там серадднякі працуюць на гультаёў і г. д. Адгэтуль ясна ня толькі эканамічнае, а і палітычнае значэньне пытаньня арганізацыі вучоту працы.

Дзякуючы таму, што яшчэ ня знойдзены тэхнічныя правілы, якія-б здавальнялі кожны калгас, па падліку працы, апошнія павінны вышукваць шляхі рацыяналізацыі існуючых форм вучоту. Дзеля пасьпяховасьці гэтае працы неабходна прыцягваць грамадзкасьць калгасу, як-та: склікаць вытворчыя нарады брыгадзіраў, прысьвечаныя гэтаму пытаньню, бо брыгадзір гэта — частка калгасу, на якую лажыцца ўся цяжкасьць працы па падліку працы, па гэтаму яго думка аснована на вопыце, каштоўна і яго трэба скарыстаць.



Гатуюць страву для калгасьнікаў, Каралінскі р., камуна „Праца".



Пробны выезд у поле ў другую колгасную вясну.

### II. Праца-дзень—адзінка вучоту.

З існуючых да гэтага часу рознастайных спосабаў вучоту працы найбольш распаўсюджаныя: першы—шкодны і некарысны, які ўжываецца ў многіх калгасах, гэта вучот „слупікамі“, г. зн., што кожны прапрацаваны дзень адмячаецца ў табэлі слупікам. Гэты мэтад ня ўлічвае ні колькасьць, ні якасьць працы, а галоўнае ня ўлічвае час патрачаны на працу.

Вучот у належнай ацэнцы мае шмат адмоўных старон, ён утварае ўражаньне ў калгасьніка, што ён працуе па-найму, пагэтаму праўленьне павінна яму плаціць кожны месяц заробную плату.

Відавочна, што такое становішча ня верна і шкодна адбіваецца на арганізацыі працы, адгэтуль калгасьнікам павінен быць зроблен рашаючы пералом у бок барацьбы з грашовай формай вучоту працы. За ўвядзеньне ацэнкі працы і яго вучоту ў працаднёх Усесаюзная нарада па працы ў калгасах гаворыць: „катэгарычна забараняецца ацэнка работы калгасьніка ў грашох“.

Што такое праца-дзень,—гэта адзінка вучоту, затрачаная калгасьнікам на якуюнебудзь працу. Для вызначэньня працадня праўленьне калгаса (улічваючы мясцовыя ўмовы) разьбівае ўсе віды працы на чатыры групы: лёгкая, сярэдняя, цяжкая і патрабуючая спэцыяльнага вопыту альбо кваліфікацыі. Норма штодзённай выпрацоўкі кожнай з умоўных груп улічваецца пэўнай колькасьцю працадней, напрыклад: за дзенную норму работы, аднесенай к групе лёгкіх прац, залічыцца 0,75 праца-дня, а к групе сярэдніх 1,0 і г. д.

Да чаго-ж прыводзіць вучот у працаднёх? К канцу году пры разьмеркаваньні ўраджаю прадукцыю дзеляць на агульную колькасьць праца-дней, такім чынам вызначаючы чаму равен 1 працадзень.

### III. Першапачатковы вучот.

Як гаварылася раней, галоўная частка работ па вучоту працы—першапачатковы вучот лажыцца на брыгадзіра. Брыгадзір атрымоўвае ад праўленьня калгаса альбо загадчыка той ці іншай галіны працы заданьне (у пісьмовай ці вуснай форме) і складае табель нарадаў.

Пры правільнай пастаноўцы вучоту працы, табель-нарад запаўняецца ў два альбо тры прыёмы. Спачатку работ уносяцца прозьвішча калгасьнікаў альбо нумар іх разьлікавай кніжкі (апошняе аблягчае працу брыгадзіра, бо яму ня трэба выпісваць кожны раз прозьвішча, імя і па бацьку калгасьніка. У тых выпадках калі карыстацца нумарам замест прозьвішча, трэба гэты нумар закрапіць за калгасьнікам і ставіць яго на ліцавым рахунку, а таксама пры састаўленьні сьпісаў, дзе павінна ўпамінацца прозьвішча калгасьніка). Акрамя гэтага ў пачатку работ указваецца неабходны аб‘ём работ і колькасьць патрэбнага інвэнтара і цягавай сілы. Усе астатнія запісы ўтвараюцца па сканчэньні работ, пры чым некаторыя графы запаўняюцца брыгадзірамі сумесна

з прыёмшчыкам работ. Па сканчэньні работ брыгадзір выпісвае колькасьць прапрацаваных працадней у месячны падрахунак. Па сканчэньні работ табель-нарад здаецца рахункаводу і служыць яму канчатковым дакумантам, на падставе якой састаўляецца балянс працы—гадавая справаздача і г. д.

### IV. Працоўная кніжка калгасьніка

Давесьці вынікі вучоту да кожнага калгасьніка магчыма толькі пры наліччы разьлікавай кніжкі ў кожнага калгасьніка. Працоўная кніжка зьяўляецца адзіным дакумэнтам, які дае магчымасьць удзельнічаць калгасьніку ў разьмеркаваньні ўраджаю.

У працоўную кніжку (форма, устаноўленая Калгасцэнтрам) уносіцца з аднаго боку колькасьць прапрацаваных калгасьнікам працадней, з другога ўсе авансавыя выдачы яму як грашовыя, так і натуральныя.

Колькасьць прапрацаваных працадней запісваецца брыгадзірам у тэрміны, устаноўленыя праўленьнем, але не радзей двух-трох разоў у месяц, які (брыгадзір) карыстаецца пры гэтым месячнымі зводкамі.

У частцы, дзе ўлічваюцца авансы, рахункавод альбо кладаўшчык робіць свае адметкі, адначасова з гэтым адмячае ў авансавай справаздачы. Паказваецца назва выдадзенага прадукту і адзінка меры. Напрыклад, жыта ў цэнтнэрах.

Такая справаздача значна аблягчае работу рахункавода таму, што ня трэба састаўляць справаздачу на кожны выдаваемы прадукт, альбо разносіць адразу-ж па ліцавым рахункам і акрамя гэтага справаздача дае магчымасьць адмячаць выдачы ў ліцавых рахунках толькі два, тры разы ў год.

### V. Падрахунак

З табялёў нарадаў рахункаводам састаўляюцца падрахункі: месячныя, квартальныя і гадавыя. Месячныя падрахункі даюць магчымасьць мець праўленьню перад сабой лічбы па скарыстаньню працы. Сваячасова прыняць неабходныя захады там, дзе ў гэтым адчуваецца неабходнасьць. Падрахункі складаюцца па галінах, па культурах, віду жывёлы і г. д.

Ва ўсіх выпадках падрахункі абязьлічваюцца, г. зн. не паказваюць пэрсанальна, хто быў заняты на данай працы.

**Савіч.**



Дэлегаты 3-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў слухаюць даклад.

# БЯЗУПЫННУЮ УВАГУ КАПІТАЛЬНАМУ БУДАЎНІЦТВУ Ў КАЛГАСАХ

Аднэй з важнейшых і першачарговых задач калгасаў і ўсёй калгаснай сыстэмы—гэта пабудаваць сваю работу так, каб у поўнай меры забясьпечыць будаўніцтва сьвінарнікаў, кароўнікаў, птушнікаў, сілосных веж і іншых пабудоў, якія вызначаны плянам Калгасцэнтру і Наркамзему на 1931 г.

Капітальнае будаўніцтва ў калгасах такая-ж важная і алказная кампанія, як і пасеўная, бо ад яе выкананьня залежыць забесьпячэньне ўсіх тых мерапрыемстваў па арганізацыі і камплектаваньню сьвінаводчаскіх гаспадарак, малочных фэрм і іншых, якія намечаны партыяй і савецкай уладай у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі. На ажыцьцяўленьне гэтай задачы ўсе калгасьнікі, калгасы і калгасная сыстэма павінна мабілізаваць бязупынную ўвагу.

### Урокі мінулага году

У мінулым годзе справай будаўніцтва ў калгасах займаліся і Калгасцэнтр, і Белсельбуд і ўсе спэцыяльныя саюзы сельска-гаспадарчай каапэрацыі БССР. У выніку работы ўсіх гэтых арганізацый мы мелі, побач з некаторымі дасягненьнямі, вялікія недахопы, асабліва па прамысловаму будаўніцтву, дзе ў асобных выпадках галавацяпства межавалася са шкодніцтвам. Трэба адзначыць, што недастаткова была разгорнута работа па будаўніцтву і з боку некаторых Райкалгассаюзу і інш. раённых арганізацый. Асабліва станоўчыя вынікі былі там, дзе была разгорнута работа па ўцягненьню грамадзкасьці калгасьнікаў і іх зацікаўленасьць і, дзе тэхнічны пэрсанал, сумесна з калгасьнікамі, пайшоў па шляху скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй на месцы, спрашчэньня, конструкцыі пабудоў і скарыстаньня мясцовых матар'ялаў замест дэфіцытных будматар'ялаў, у якіх адчуваўся недахоп. Там-жа, дзе раённыя працаўнікі ставілі пытаньне аб прысылцы спэцвопраткі, рабсілы і дэфіцытных матар'ялаў, замест таго, каб выкарыстаць маючыяся магчымасьці на месцы, там плян будаўніцтва ня быў выканан, а ў некаторых мясцох сарваны.

Не абыйшлося і бяз шкодніцтва з боку паасобных тэхнічных працаўнікоў. Гэткае зьявішча мы мелі ў Ветрынскім раёне і ў Самахвалаўскім і ў іншых і яны магчыма былі толькі таму, што як раённымі ўстановамі, таксама і цэнтральнымі, якім гэтай справай непасрэдна належыла займацца, ня была ўдзелена належная ўвага і кантроль за гэтай работай.

У мінулым годзе калгасамі гаспадарчым спосабам пабудована сьвінарнікаў новых 126 на 10.700 галоў, прыстасаваны будынкі пад сьвінарнікі на 18.800 галоў. Пачата пабудова і ня скончана 378 сьвінарнікаў на 28.495 галоў, работа якіх выкана на 58 проц. Гадавы плян выкананы на 47 проц. Па пляну НКЗ на адно сьвінаместца было вызначана 125 р. укладаньняў, фактычна выдаткавана 133 руб. Кароўнікаў пабудавана новых 191 на 16.190 галоў, прыстасавана старых памяшканьняў пад кароўнікі на 29.300 галоў, пачата будаўніцтва і ня скончана 200 кароўнікаў на 24.000 галоў. Гадавы плян выканан на 112 проц. Па пляну на адно месца было вызначана 125 руб., фактычна выдаткавана 126 р.

Такое, прыкладна, становішча і ў адносіне іншага будаўніцтва. Значна горш абстаіць справа ў адносіне прамысловага будаўніцтва, дзе з 9-ці крухмальных заводаў пабудавана толькі два і тыя засталіся неабсталяванымі.

### Аб'ём будаўніцтва на 1931 год

Згодна кантрольных лічбаў ураду БССР плян капітальнага будаўніцтва ў калгасах на 1931 год значна пашыран у параўнаньні з мінулым годам і сума ўкладаньняў складае каля 35 мільёнаў рублёў.

Бязумоўна, што толькі пры максымальнай напружанасьці і правядзеньні сваячасовай і належнай падрыхтоўкі, як саміх калгасаў, так і ўсякае калгаснай сыстэмы, гэткае важнае мерапрыемства

будзе забясьпечана выкананьнем. А выканана яно павінна быць сваячасова і абавязкова поўнасьцю, бо ад яго выкананьня залежыць камплектаваньне сьвінаводных і малочных стад, гэта значыць вырашэньне мясной праблемы, гэта значыць выкананьне пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі, гэта значыць нанясеньне рашучага ўдару па кулаку.

Па пляну ў гэтым годзе калгасы павінны пабудаваць 300 скотных двароў на 30.000 галоў буйнай рагатай жывёлы, прыстасаваць скотных двароў у 314 гаспадарках на 30.000 галоў, прыстасаваць цялятнікаў у 691 гаспадарцы на 50.000 галоў, пабудаваць дапаможных будынкаў у малочных фэрмах у 350 гаспадарках, пабудаваць ізалятараў у 691 спэцыялізаванай гаспадарцы. Сьвінарнікаў пабудаваць 3.200 па 320.000 галоў, ізалятараў—1.300, кухань—1.300, сілосных вежаў—165 і іншыя, аб'екты якіх налічваюцца па пляну каля 15 тысяч па ўсіх калгасах.

### Парадак будаўніцтва

Згодна пастановы Праўленьня Калгасцэнтру БССР усё капітальнае будаўніцтва ў калгасах у 1931 г., як правіла, павінна вытварацца *гаспадарчым спосабам* самімі калгасамі. Гэта пастанова і парадак мае вельмі важнае значэньне, бо пры гэтым парадку мы будзем мець непасрэдную зацікаўленасьць саміх калгасьнікаў, а гэтым самым і належныя посьпехі ў яго правядзеньні, а таксама гэта дасьць магчымасьць патаніць кошт самога будаўніцтва.

Бязумоўна, мы павінны паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб перадачы ўсяго прамысловага будаўніцтва, якое да гэтага часу вытваралася калгасамі і калгаснай сыстэмай (крухмальныя заводы, млыны, масла-сыр-заводы, пладагародныя камбінаты, ільназаводы, электрастанцыі, пад'ездныя чыгуначныя шляхі), іншым арганізацыям, бо калгассыстэме гэта работа не пад сілу і займацца гэтым яна ня можа, бо на яе ўскладзена асноўная работа па калектывізацыі сельскае гаспадаркі, арганізацыі яе і стварэньні базы сыравіны.

### Тэхдапамога і кансультацыя

Плянаваньне будаўніцтва, тэхдапамога і кансультацыя будзе аказвацца калгасам праз той тэхнічны апарат, які маецца як у апараце Калгасцэнтру, так і Райкалгассаюзаў.

Але налічча тых кадраў, якія мы маем, ня можа забясьпечыць гэтай работы. Таму, згодна пастановы Калегіі НКЗБ аддзяленьне Трэсту Саюзсельбуду павінна аказваць калгасам тэхдапамогу і кансульта-



Будаўніцтва ў калгасе.

цыю праз свой цэнтральны і мясцовы апарат. Аказваемыя Сельбудам тэхдапамога і кансультацыя будзе аплачвацца калгасамі па сабекаштоўнасьці.

### Тыпы с.-г. будаўніцтва на 1931 год

У мінулым годзе мы мелі тыпы сьвінарнікаў і кароўнікаў такія, якія патрабавалі значнай колькасьці дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў, як, напрыклад, цэманту, цэглы, жалеза, цьвікоў і інш. Шмат у якіх мясцох мы пачалі будаваць скотныя двары-палацы з адпаведнай кубатурай. Гэта справа, вядома, нядрэнная, але-ж тым наліччам дэфіцытных матар'ялаў, якія мы маем, мы не змаглі забясьпечыць пэўнай патрэбы ў гэтых матар'ялах і частка будынкаў, у зьвязку з гэтым, была пачата і ня скончана, а частка і зусім не распачата.

У гэтым годзе мы павінны ісьці па шляху спрошчаных конструкцый, мы павінны максымальна скарыстаць усе мясцовыя матар'ялы, як, напрыклад, матар'ялы ад разбору кулацкіх і абагуленых будынкаў, салому і г. д. У адпаведнасьці з гэтым і складзены проекты будынкаў, якія калгасам рассылаюцца.

### Падрыхтоўка да будаўніцтва

Падрыхтоўка да будаўніцтва ідзе яўна нездавальняючымі тэмпамі. Ня гледзячы на тое, што лес для калгасаў быў вызначан некалькі месяцаў таму назад і што аб яго нарыхтоўцы і вывазцы Калгасцэнтрам былі дадзены ўказаньні Райкалгассаюзам, работа па нарыхтоўцы і вывазцы праходзіць зусім дрэнна, маецца шэраг калгасаў, якія гэтай работы яшчэ не распачалі.

Такія адносіны можна характарызаваць, як недаацэнку некаторымі Райкалгассаюзамі і калгасамі справы будаўніцтва, справы організацыі сьвінаводных гаспадарак і малочных фэрм, як праваапартуністычная практыка. Мы маем нават такія разважаньні асобных працаўнікоў Райкалгассаюзаў, якія гавораць аб недахопе рабочай сілы ў калгасах, патрэбнай для нарыхтоўкі і вывазкі лесу і ставяць пытаньне аб водпуску крэдытаў на гэтую мэту.

Мы павінны работу па нарыхтоўцы і вывазцы будаўнічых матар'ялаў паставіць на ўдарныя рэйкі. Трэба зараз-жа намеціць плян і падрыхтавацца да нарыхтоўкі такіх матар'ялаў, як гальля, гліны, каменьня, пілматар'ялу, саломы і інш.

Неабходна ўказаць, як адзін з недахопаў у справе падрыхтоўкі да будаўніцтва, гэта позьняя рассылка Калгасцэнтрам плянаў будаўніцтва на 1931 год у раёны.

### Кадры будаўнікоў у калгасах

У мінулым годзе мы адчувалі войстры недахоп у кваліфікаванай рабочай сіле ў калгасах. У некаторых калгасах гэтая рабочая сіла была, але належным чынам ня была скарыстана.

Каб не паўтарыць памылак мінулага году і каб забясьпечыць усё будаўніцтва ў калгасах спэцыялістымі-будаўнікамі, зараз-жа неабходна прыступіць да арганізацыі спэцыяльных брыгад будаўнікоў з ліку саміх калгасьнікаў, працаваўшых раней плотнікамі, пячнікамі, сталярамі, кровельшчыкамі і інш. Брыгады будаўнікоў у калгасах павінны зараз-жа пасьля арганізацыі наладзіць сувязь з тэхнічным пэрсаналам раёну і яшчэ да наступленьня будаўнічых работ азнаёміцца і прапрацаваць праекты пабудоў і каштарысы. Кіраўнікамі будаўнічых брыгад трэба вылучыць больш сьвядомых калгасьнікаў, якія павінны быць падрыхтаваны на адпаведных курсах.

Для заахвочваньня ў рабоце калгасьнікаў-будаўнікоў неабходна, каб у кожным калгасе былі вызначаны прэміяльныя фонды для прэміраваньня за лепшую работу. Трэба работу будаўнікоў аднесьці ў групу работ, на якую падае больш працадзён.

Трэба вакол гэтага пытаньня стварыць грамадзкую думку калгасьнікаў. Трэба памятаць, што поўнае выкананьне намечанага пляну будаўніцтва сьвінарнікаў, кароўнікаў і інш. пабудоў створыць магчымасьць для калгасаў больш шпаркага пашырэньня сваёй гаспадаркі, падняцьця яе таварнасьці, палепшаньня дабрабыту саміх калгасьнікаў і выкананьня намечаных партыяй і савецкай уладай мерапрыемстваў у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

**А. Залескі.**

# Забаватасьць карэньня ў садовых выхавальніках БССР

Арганізацыя буйных прамысловых садоў пры сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі вымагае і разгортваньня прадукцыі садовых выхавальнікаў. Адначасова з гэтым прышчэпы выхавальнікаў па свайму сартымэнту павінны адпавядаць пэўнаму раёну і быць кондыцыйнымі (здаровыя, правільна сфармаваныя, без мэханічных пашкоджаньняў і г. д).

Адсутнасьць грыбных і бактэрыяльных хвароб на прышчэпах ёсьць адно з галоўных вымаганьняў іх кондыцыйнасьці.

Тут мы падаем матар'ялы аб бактэрыяльным захворваньні (карнявы рак пладовых дрэў, альбо забаватасьць) дзічак і прышчэп у садовых выхавальніках БССР.

Выяўляецца хвароба ў тым, што на карэньні дзічак і прышчэп зьяўляюцца рознай велічыні наросты, якія ўродуюць карнёвую сыстэму, часта прыгнечваюць рост і хутка заражаюць глебу. Даведзена, што гэтая бактэрыя здольна заражаць да 40 розных расьлін, як буракі, морква, капуста, рэпа, рэдзька, бульба, таматы, гарох, яблыня, ігруша, маліна, хмель і інш. Асабліва-ж непажадана гэта хвароба для пладовых выхавальнікаў.

На абшарах БССР забаватасьць карэньня па ветках старых садаводаў сустракалася і раней, але ў малым процанце. У 1924 г. праф. Медзіш знаходзіць забаватасьць карэньня ў Горках. Пачынаючы з 1917 г., яна сустракаецца ў выхавальніках Марына-Горкі, саўгас імя Калініна (Шчарбовіч). У 1929 г. Стазра НДІ рэгіструе гэту хваробу пад Менскам (саўгас Людамант).

Ў апошнія пяць год забаватасьць карэньня заўважана ў некалькіх пладовых выхавальніках БССР. Асабліва выявілася гэта хвароба ў двух выхавальніках—саўг. Людамант і выхавальнік Глівін, Барысаўскага р.

Такое праяўленьне забаватасьці карэньня ў некаторых садовых выхавальніках БССР прымусіла Фітопатолёгічны Аддзел Бел. Зон. Стазра правесьці анкетнае абсьледваньне нашых пладовых выхавальнікаў. Пры гэтым ставілася мэтаю:

1) выявіць ступень пашыранасьці гэтай хваробы,

2) устанавіць крыніцы занясеньні заразы і

3) вызначыць папярэдныя спосабы барацьбы. Да разгляду гэтых матар'ялаў і пераходзім.

*Пашырэньне забаватасьці карэньня.* На разасланую анкету адказала 11 выхавальнікаў; апрача таго, чатыры выхавальнікі былі абсьледаваны непасрэдным выездам фітопатолёга і 1 выхав. Гомельскім наглядальным пунктам. Усяго ёсьць весткі ад 16 садовых выхавальнікаў (каля 40% з плошчаю 119,65 *га*.

Дзьве анкеты адказалі, што ў іх выхавальніках забаватасьці няма (Вусьце, Аршанск. р. і Віцебская дасьледчая ст.), а 14 выхавальнікаў мелі螺 рознае пашкоджаньне дзічак і прышчэп гэтаю хваробаю (весткі за 1929 г.). У чатырох выхавальніках забаватасьць карэньня заўважана ў год іх закладкі, у другіх чатырох праз два гады, а ў рэшты, пераважна старых выхавальніках, гэта хвароба была заўважана пазьней (саўг. Блонь, Марына-Горка, саўг. імя Калініна. У першую чаргу пашкоджанымі аказаліся дзічкі ў школах або дзічкі, выпісаныя для вачкаваньня ад іншых дзічкаводаў (Варонеж, Лохвіцы).

*Як перадаецца і заносіцца каранёвы рак.*

Вельмі яскравым прыкладам перахода забатаатасьці карэньня ад дзічак да прышчэп можа быць садовы выхавальнік Глівін, Барысаўскага раёну. Там упяршыню гэтая хвароба зьявілася ў школцы сеянцаў. Насеньне было выпісана з Варонежу (б. Гаховіч). Вучастак поля пад школкаю вышаў з-пад гародаў, дзе былі буракі. Школка сеянцаў трымалася на гэтым месцы тры гады і з першага году дала заражэньне дзічак на 20—30 проц. Пашкоджана была каранёвая шыйка і бакавыя карэньні. У 1926 і 1927 г. г. заражоныя дзічкі сваёй школкі амаль бяз усякай выбракоўкі ішлі ў пасадку

для далейшага вачкаваньня. На гэтых-жа кварталах (1—IV)[1]) у 1928 г. і прышчэпы аказаліся заражонымі забаватасьцю да 50 проц. і больш. Амаль такую-ж заражонасьць прышчэп далі і дзічкі, выпісаныя ў 1925 г. з Варонежу. Аднак на адным квартале ў тым-жа выхавальніку (1927 г.) дзічкі былі высаджаны для вачкаваньня пасьля выбракоўкі заражоных. Абсьледаваньне гэтага кварталу ў 1930 г. паказала, што тут заражонасьць прышчэп была на 7—10 проц.

Другі прыклад перадачы заразы ад дзічак да прышчэп назіраем у выхавальніку саўг. Людамант (Менск). І тут забаватасьць карэньня ўпяршыню зьявілася на дзічках, якія гадаваліся ў сваёй школцы, а насеньне было выпісана з Украіны; заражонасьць да 20 проц. Прышчэпы ў 1928 г. мелі заражонасьць да 20 проц., у 1929 г. на 30—40 проц. і больш.

На занясеньне заразы карнёвага рака ў выхавальнік праз выпіску заражоных дзічак паказваюць выхавальнікі „Чырвоны Садоўнік“, Бабруйскага р., саўгас Дарашэвічы, Скрыгалаўск. р. і інш. Першы выхавальнік выпісваў дзічкі з Масквы (б. Бондур), Ляховіцы і Харкава, а другі з Аршанскай і Бабруйскай акр.

Паўстае пытаньне, дзе шукаць першую прычыну зьяўленьня каранёвага рака ў садовых выхавальніках БССР? Ці ёсьць у нас падставы сьцьвярджаць, што гэта хвароба была занесена да нас з іншых раёнаў СССР, адкуль выпісвалася насеньне і дзічкі (Варонеж, Лохвіцы, Масква). Бязумоўна, выпіска насеньня і заражоных дзічак з іншых раёнаў для многіх нашых выхавальнікяў зьявілася першай прычынаю прыметнага праяўленьня забаватасьці. Аднак, адсюль не вынікае, што ў нас на месцы не магло быць гэтай хваробы.

Пладовы выхавальнік саўгасу „Дварэц“ Бабруйскага раёну карыстаўся насеньнем дзікай яблыні свайго раёну і дзічкі ў школцы аказаліся заражанымі. Тое-ж трэба сказаць і пра выхавальнік у Марына-Горцы, Пухавіцкага раёну, дзе насеньне было сваё, а дзічкі мелі нявысокі процант заражэньня. Саўгас Дарашэвічы атрымаў заражоныя дзічкі з Бабруйскай і Аршанскай акр. (1927 г.). Такім чынам, забаватасьць карэньня ў некаторых выхавальніках праявілася на мясцовым матар‘яле.

[1]) Даныя спэцыяльнай камісіі Менакрза 31-V 1928.



Мал. 1 і 2.

*Уплыў агрыкультурных умоў.*

Незалежна ад спосабу занясеньня заразы ў выхавальнік можна заўважыць, што агрыкультурныя фактары маюць свой уплыў на праяўленьне і пашырэньне каранёвага рака. Так, па вестках абсьледаваньня выхавальнікаў можна сказаць, што на пескавых глебах забаватасьць шкодзіць менш, чым на суглінках.

Спрыяе пашырэньню хваробы сырая і забалочаная глеба (саўг. „Дварэц“). Гэта назіраньне практыкаў можна было праверыць на глебах выхавальніка Глівін. Там вельмі блізка грунтовыя воды,



Мал. 3 і 4.

бо на тэрыторыі выхавальніка ёсьць нават балатавінкі. Культурная плошча выхавальніка займае ніжнюю тэрасу каля рэчкі Бярозы. Па высокаму працанту заражэньня тут дзічак і прышчэп (1928, 1929 г.) можна меркаваць, што кіслыя глебы і блізкасьць грунтовых вод спрыяюць большаму праяўленьню забаватасьці. Другія выхавальнікі сьцьвярджаюць, што хвароба бывае часьцей пры ўгнаеньні сьвежым гноем (Сьмалявічы) пры кароткім севазвароце (Блонь). Севазварот, або выбар здаровага месца, пад школку сеянцаў мае асаблівае значэньне. Ілюструем гэта прыкладамі. У садовых выхавальніках Глівін, Людамант (Менск) і „Чырвоны Садоўнік“ школкі сеянцаў былі заложаны на вучастках з-пад гароду. У Гліўні папярэдняй культурай былі буракі, а яны часта паражаюцца той-жа бактэрыяй (Ізраільскі). У саўгасе Людамант наросты забаватасьці таксама часта сустракаюцца на бураках.

Такім чынам, вучасткі з-пад буракоў трэба лічыць небясьпечнымі для школкі сеянцаў. Тут глеба можа быць заражонай ад папярэдняй культуры і спрыяюць большаму заражэньню дзічак.

### *Шкоднасьць забаватасьці карэньня*

Аб шкоднасьці хваробы для прышчэп няма аднолькавага погляду. Некаторыя садаводы-практыкі і нават фітопатолёгі (Г. Н. Дарогін) у некаторых выпадках наглядалі быццам лепшы рост для заражоных прышчэп у параўнаньні з здаровымі. Але гэту думку трэба лічыць не даказанай. Э. Сміт заражаў расьліны культурай бактэрыі і назіраў выразную прыгнечанасьць (1). Опенгеймер піша, што шкоднасьць забаватасьці на ігрушы ў першы год вызначаецца ў 20 проц., далей яна зьніжаецца і наросты ня маюць уплыву на расьліну.

Досьледы В. П. Ізраільскага выяўляюць шкоднасьць гэтай хваробы і тады, калі заражоная расьліна ў час росту нават не адрозьніваецца ад здаровай. На досьледзе з буракамі ён назіраў, што ў час вэгетацыі хворыя экзэмпляры нельга было адрозьніць ад здаровых, але пры перахоўваньні буракоў зімою хворыя хутка вялі і загнівалі ад іншых бактэрый. Хімічна-біолёгічны аналіз паказаў, што ў буракоў, заражоных забаватасьцю, большы процант акісьляючых фэрмэнтаў (аксідаз), чаму і зімою ў іх ня спыняліся павышаныя жыцьцёвыя працэсы.

Такую-ж павышаную жыцьцёвую дзейнасьць можна чакаць і ад дзічак ці прышчэп, заражоных забаватасьцю. І тут фізыолёгічныя працэсы могуць ня спыняцца з канцом вэгетацыі. Толькі пры такім разуменьні і можна ўявіць сабе прычыну адміраньня да 5 працантаў прышчэп 3-хгодак пры перазімоўваньні

**ПАДУШНА-ЯДОЦКІ ПРЫНЦЫП РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ ПРЫБЫТКАЎ І УРАДЖАЮ Ў КАЛГАСАХ—ЗБРОЯ Ў РУКАХ КУЛАКА.**

ў 1929-30 г., што наглядалася мною ў выхавальніку Глівін. Загніўшыя прышчэпы мелі самы высокі рост, былі добра сфармаваны. Летам 1930 г. яны стаялі бяз лісьця, кара ў каранёвай шыйкі пабурэла і патрэскалася.

*Марфалёгія пашкоджаньня* каранёвай сыстэмы забаватасьцю паказана на малюнках. Звычайна можна назіраць чатыры тыпы пашкоджаньня.

I. Пашкоджаны галоўны корань у каранёвай шыйкі. Наросты недалёка ад паверхні зямлі, яны вырастаюць з аднаго боку кораня і далей разрастаюцца да розных памераў. На дзічках і аднагодках-прышчэпках у саўг. Людамант яны дасяглі велічыні курынага яйца (мал. № 1—2).

II. Пашкоджаны бакавыя карэньні 1 парадку; наросты ня глыбока ў глебе і некалькі меншага памеру (мал. 4).



Мал. 5.

III. Пашкоджаны забаватасьцю галоўны корань і бакавыя карэньні 1 парадку (мал. 3).

IV. Слаба пашкоджаны бакавыя карэньні 1 парадку, галоўным чынам, у месцы абрэзкі іх пры высадцы дзічак у выхавальнік. Глыбока ў глебу пашкоджаньне не заходзіць (мал. 5).

## Спосабы барацьбы

Пытаньне барацьбы з каранёвым ракам пладовых дрэў цяпер яшчэ мала распрацавана. Таму тут будуць пералічаны толькі некаторыя папярэджваючыя меры, якія вынікаюць з усяго ранейшага. У некаторых нашых садовых выхавальніках у першыя гады зьяўленьня хваробы ніякіх мер барацьбы не праводзілі. Пазьней-жа (з 1929 г.) сталі вырэзваць наросты і ўсю каранёвую сыстэму пратручваць у 1 проц. растворы сіняга каменю. Адзін выхавальнік (Смалявічы) пратручваў карэньні ў растворы вапны.

Перадаваліся заражоныя прышчэпы ў выхавальніках:

| | |
|---|---|
| Людамант . . . | 1928-29 г. |
| Глівін . . . . | 1927-29 г. |
| Смалявічы . . . | 1928-29 г. |
| Чырвоны Садоўнік . . | 1928-29 г. |
| Дварэц . . . . | 1929 г. |

Выбракоўвалася сярод заражоных 3—10 проц. прышчэп з наростамі на галоўным корані. Зусім не выпускалі ў продаж прышчэп з забаватасьцю выхавальнікі Блонь, Лютня-Бобрык, Астрагляды, Яроміна, Дарашэвічы і інш.

Пры малым працанце заражонасьці гэта самы надзейны спосаб барацьбы. Пры больш значным пашырэньні хваробы, бязумоўна, няма сэнсу выбракоўваць усе пашкоджаныя прышчэпы. Пры пашкоджаньні II і IV тыпу раіцца выразаць наросты, каранёвую сыстэму пратруціць і далей ужо высаджваць. Аднак гэта не азначае, што хвароба няшкодна і што захоўваньне ад яе выхавальніка ня так пільна. Наадварот, неабходна імкнуцца к таму, каб кожны выхавальнік даваў на 100 проц. здаровыя прышчэпы і пры гэтым ня меў-бы вялікага працанту браку.

Каранёвая сыстэма прышчэп, якія выпускаюцца для пасадкі, павінна быць патручана. Сярод шэрагу фунгісідаў для пратручваньня карэньня, якія вылучаліся Харкаўскай Стазра, лепшым аказаўся 1 проц. раствор сіняга каменю і далей суляма (1 : 1000). Каранёвая сыстэма пагружаецца ў раствор фунгісіда на 5 мін. і далей прамываецца ў вадзе.

Опенгеймер раіць пасьля абрэзкі нарастаў прамываць карэньні ў растворы гліны і пяску з дабаўленьнем 0,5 проц. успулюна (5).

Пратручваньне заражонай глебы серным парашком (245 кгр. на акр) і пратручваньне каранёвай сыстэмы ў растворы сулемы ў Шчарбакова (Амэрыка) далі нязначны процант пашкоджаньня (3).

Якое значэньне ў барацьбе з забаватасьцю мае гадоўля здаровых дзічак, ужо гаварылася раней. Для папярэджваньня хваробы неабходна выбіраць здаровыя вучасткі пад школкі сеянцаў і захоўваць севазвароты. Пры першай падазронасьці на забаватасьць карэньня неабходна праводзіць уважлівую выбракоўку заражаных дзічак. Трэба памятаць, што лепш выбракаваць 10—20 проц. дзічак (к таму-ж прыгнечаных), чым выбракоўваць потым прышчэпы.

Выхавальнікі саўг. Яроміна, Лютня-Бобрык і інш. праводзяць такую выбракоўку дзічак і яны амаль ня ведаюць заражонасьці прышчэп у час продажу.

Для барацьбы з забаватасьцю карэньня неабходна ўвесьці ў практыку пратручваньне насеньня перад пасевам, як гэта прынята саўгасамі і калгасамі для збожжавых культур.

Тут зусім не ўспамінаецца аб назіраньнях і досьледах па барацьбе з забаватасьцю карэньня праз бактэрыофагію. Гэты мэтад барацьбы будзе мецць будучыню, але зараз ён яшчэ мала распрацованы. Урэшце, неабходна адзначыць, што для падтрыманьня садовых выхавальнікаў на пэўнай патрэбнай вышыні пажадана выпрацаваць для іх спэцыяльныя кандыцыі і ўстанавіць дзяржаўны кантроль (з боку зямельных установ) за іх прадукцыяй.

**С. Тупяневіч.**

### Літаратура.


1. *Н. А. Яковлев.* Корневой рак плодовых деревьев. (Журн. „Защита Растений“ № 3—4 1929 г.).
2. *А. А. Ячевский.* Ежегодник сведений о болезнях и повреждениях культур и дикораст. растений.
3. *В. П. Израильский.* К вопросу о корневом раке плодовых деревьев („Сад и огород“ № 2, 1928 г.).
4. *М. Маркеллов.* К вопросу о зобоватости корней у плодовых деревьев („Сад и огород“ № 1, 1928 г.).
5. *Проф. Кичунов.* Дусен и парадизка („Сад и огород“ № 12, 1929 г.).
6. *Ф. Д'Эрелль.* Бактериофаги. ГИЗ 1926 г.
7. *В. П. Израильский.* Явление бактериофагии и рак растений. (Вестник биолого-агроном. ст. 1926 г., в. 24).
8. *А. А. Ячевский.* Бактериофаги в применении к фотопатологии.
9. *Т. К. Кверацехвилия.* Материалы к биологии корневой системы плодовых деревьев, Сухум. 1927.


## Веснавая пасеўкампанія—рашаючы этап у барацьбе за выкананьне пляну трэцяга году пяцігодкі ў галіне сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

## З 15 КРАСАВІКА ПА 5 МАЯ АГЛЯД КАЛГАСНАГА КАНЯ.

# УСІМ КАЛГАСЬНІКАМ, УСІМ ОСОАВІЯХІМАЎЦАМ БЕЛАРУСІ.

### Конная цягавая сіла зьяўляецца самым пагражаючым вучасткам у другой бальшавіцкай сяўбе.

Посьпехі нашага сацыялістычнага будаўніцтва ў цэлым, посьпехі сацыялістычнай перабудовы вёскі і ліквідацыя кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, выклікаюць шалёнае супраціўленьне кулацтва, якое ў сваей шкодніцкай рабоце імкнецца ахапіць усе галіны сельскай гаспадаркі. Улічваючы вялізарнае значэньне каня як у гаспадарцы, так і абароне краіны, кулацкія элемэнты вёскі вядуць агітацыю супроць каня, за яго зьнішчэньне, ствараючы гэтым вялікую дапамогу замежным ворагам Савецкага Саюзу.

У той-жа час у шэрагу калгасаў і райкалгассаюзаў наглядалася і дагэтуль недаацэнка значэньня каня, якая і падрыхтоўвае спрыяючую глебу для гэтай шкодніцкай кулацкай рабоце.

Разбазарваньне коняй некаторымі калгасамі, бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі да ўступленьня ў калгасы, павяло да скарачэньня конскага пагалоўя, страты інтарэсу да гадоўлі коняй, у выніку чаго ўжо цяпер адчуваецца недахоп у цягавай сіле ў сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі і ў транспарце ўсіх прызначэньняў.

У той-жа час зацягнуўшаяся зіма надта скарачвае тэрмін веснавых палявых работ, што бязумоўна пацягне за сабой узмацненьня нагрузкі коняй, яшчэ больш павялічыцца недахоп у цягавай сіле.

Усё гэта ставіць пытаньне аб калгасным кані на першае месца ў справе падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай сяўбы. Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на каня, скарыстаўшы ўсе магчымасьці, усе сілы для таго, каб конь вышаў у поле максымальна падрыхтаваным і правільна скарыстаным.

ЦК УсеКП(б), НК РСІ СССР абвешчан усесаюзны агляд калгаснага каня. Па Беларусі гэты агляд праводзіцца з 15 красавіка па 5 мая.

Задача агляду павінна быць ня толькі простае выяўленьне большай ці меншай падрыхтаванасьці да веснавой сяўбы коняй таго ці іншага калгасу, ня толькі проста канстатаваць факты.

Але максымальна завастрыць увагу шырокай калгаснай усёй савецкай грамадзкасьці па пытаньню конскай цягавай сілы, назначэньню каня ў нашай сацыялістычнай гаспадарцы і абароне краіны на пытаньне гадоўлі коняй і коняпаляпшэньне.

Усесаюзны агляд каня павінен ліквідаваць тую шкодную недаацэнку каня, якая яшчэ мае месца і якая дзейнічае на карысьць ворагам Савецкага Саюзу.

Усе калгасьнікі, усе спэцыялістыя сельскай гаспадаркі, усе работнікі калгаснай сыстэмы і актыў вёскі—павінны ўдзяліць агляду асаблівую ўвагу, з максымальнай энэргіяй узяцца за справу арганізацыі коннай цягавай сілы, за справу арганізацыі коняводзтва.

Осоавіяхім—апора мірнай працы і абароны СССР, ня можа стаяць у баку ад пытаньня коняводзтва, маючых надзвычайна вялікае значэньне, як для мірнай працы ў нашым сацыялістычным будаўніцтве, таксама для абароны СССР.

Цэнтральны савет Осоавіяхіму БССР уключаецца ў Усесаюзны агляд калгаснага каня і вылучае асобныя фонды для прэміраваньня калгасных ячэяк Осоавіяхіму і паасобных калгасьнікаў Осоавіяхімаўцаў, якія стануць на першае месца ў справе арганізацыі коннай цягавай сілы і ў галіне лепшага ўтрыманьня і скарыстаньня каня. Цэнтральны Савет Осоавіяхіму БССР прапануе ўсім членам таварыства павесьці рашучую барацьбу за каня ў гаспадарцы, за каня для абароны краіны.

Праўленьне Калгасцэнтру БССР і Цэнтральны Савет Осоавіяхіму ўпэўнены ў тым, што калгасьнікі і осоавіяхімаўцы Беларусі прымуць актыўны ўдзел у справе коняводзтва, як і ў вырашэньні іншых палітычна-гаспадарчых кампаній і забясьпечаць яго поўнае выкананьне.

Старшыня Калгасцэнтру БССР **Міцькоў.**

Нам. Старшыні Цэнтральнага Савета Осоавіяхіма БССР **Дрылёнак.**

# Перапіска з рабселькорамі

**Яфрэмаву С.** (Бабруйск).
Допіс „Вішнёвыя сады“ перададзен у газэту „Калгасьнік Беларусі“.

**Шумілаву Г.** (Шклоў).
Артыкул „Увага калгасаў на дапамогу школе“ ня пойдзе, аб гэтым ужо пісалася ў часопісу. Астатнія вашы допісы будуць зьмешчаны.

**Кавалёву П.** (Клімаўшчына).
Артыкул „На Клімаўшчыне растуць новыя калгасы“ да друку не падыходзіць, вельмі шмат агульных разважаньняў і няма фактаў. Напішэце нам аб гэтым яшчэ, прывядзеце лічбы, факты.

**Гуру Г.** (Ветрыншчына).
Допіс аб будаўніцтве ня пойдзе, вы вельмі шмат закранулі пытаньняў і прытым апісалі іх агульна, без падачы фактаў, не канкрэтна. Заўсёды трэба апісваць адно якое-небудзь пытаньне і апісаць падрабязна, з прыкладамі, фактамі, з лічбамі. Астатнія вашы допісы надрукуем.

**Апацкаму** (Барысаў).
Артыкул „Агляд сіласу“ ня пойдзе. Вы нічога не гаворыце ў сваім артыкуле, як лепш калектыўна гаспадаркам наладзіць сіласаваньне.

**Марозаву С.** (Лепель).
Дасланы артыкул „Удзел калгасаў і саўгасаў у палітэхнізацыі школы“ надрукуем. Пішэце яшчэ.

**Снытко Ю.** (Магілеўшчына).
Лісты вашы і допісы атрымалі. Допіс „Яўрэі-беднякі будуюць новае жыцьцё“—зьмесьцім. Старайцеся больш канкрэтна і падрабязна пісаць. Як у вас справа з распаўсюджваньнем часопісу „Шляхі Калектывізацыі“?

**Русовічу В.** (Заслаўшчына).
З дасланых допісаў—чатыры перадалі ў газэты „Калгасьнік Беларусі“, а нарыс „Ударнікі-энтузіястыя“ да друку не падыходзіць, вельмі слаба напісаны. Вы быццам-бы апісваеце ўдарнікаў, але ва ўсім нарысе зусім не паказаны ўдарнікі. Мала назваць ударнікам таго ці іншага рабочага саўгасу, трэба паказаць, у чым выявілася гэта ударніцтва, у якой працы, даць прыклады, параўнаньні і г. д., а вы ня справіліся з апісаньнем вашых ударнікаў. Напішэце нам аб гэтым заметкай.

## СЬПІС ЛІТАРАТУРЫ
### да веснавой пасеўкампаніі, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ДРУКУ

**Александраў**—Шалёнства ў жывёлы і чалавека і змаганьне з ім.
**Агінскі Л. М.** Трактар „Фардзон“ і „Фардзон Пуцілавец“.
**Асеева**—Культура раньняй бульбы.
**Андрэяк**—Зробім паласу спажываньня вытворчай.
**Апрэсянц**—МТС і калгасы.
**Валодзька**—Да пытаньняў аб становішчы вадазабясьпекі ў БССР.
**Гуржы**—Натуральныя фруктовыя сокі.
**Дунін М. С.**—Як палепшыць навознае ўгнаеньне.
**Захарыч**—Зборы і загатоўка грыбоў.
**Іваноў**—Значэньні лесу, яго жыцьцё і гадоўля.
**Іванюк**—Палепшым насенны матар'ял.
**Крэйдзік**—Стандартныя сарты пладовых дрэў.
**Каваль**—Закладка калгаснага саду.
**Нав. кал. Інст.** Як арганізаваць працу ў ільнаводных калгасах.
**Нав. кал. Інст.**—Тое-ж у іншых калгасах.
**Лазарэвіч**—Прамысловая падсочка сасны.
**Ліўшыц**—Сьвінныя хваробы сацсэктару.
**Пячкуроў А. Т.**—Тыпы і разьлікі ўмацаваньня канаў.
**Скіба**—Памятка лесазагатоўшчыка.
**Стоднікаў**—Хэмія торпу.
**Такке Б.** — Навуковыя асновы культуры балот.
**Хаванскія М. і Е.**—Як выхоўваць, утрымліваць і скарыстоўваць каня.
**Чэмелаў**—Гадоўля цыбулі.
**Дамінікоўскі**—Вапнаваньне глебы.
**Юркін**—Арганізацыя працы ў калгасах і новы ўздым калгаснага руху.

Адказны рэдактар—Рэдкалегія:
**Аўчыньнікаў Т., Бондар Г., Паніматка, Самусевіч, Сямашка С.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 735. 6.000 экз. Галоўлітбел № 782.